## I.

**Морскія людзі.—Дзіўны горад.—Раздураныя кіцяняты.— Лодка ў паветры.**

Трэці дзень злуе бура. Халодны васеньні дождж пырскае без перапынку, хоць стаіць лета: сьнежань месяц. Дажджавая заслона схавала ўсе горы: толькі бліжэйшыя скалы нявыразна чарнеюцца. Наверсе сьвішча вецер, недзе далёка чуецца як раве мора, але тутака, у гэтым калідоры між стромкіх скал, адносна яшчэ ціха. Часам уварвецца і сюды вецер, загудзе, завые, як злоўлены зьвер, але вузкую стужку вады расхваляваць ня можа. А потым ізноў спакойна, толькі дождж булькае па вадзе ды наверсе вецер шуміць.

І трэці дзень, зашыўшыся ў шчыліну між скал, стаіць лодка Тойдо. Палова яе добра схавана пад страхой; сюды дождж амаль не дасягае. Тутака і разьмясьцілася ўся сям'я Тойдо: жонка, 19-гадовы сын Манг і двое малодшых дзяцей—дзяўчынка дзесяці год і шасьцігадовы хлопчык.

Але з другога краю дождж у лодку льлецца.

— Вылівайце ваду!—час ад часу загадвае бацька. І тады дзеці чарапкамі і рукамі пачынаюць выплёхваць ваду з чаўна.

І так трымаюцца трэці дзень.

Можа вы падумаеце, што гэта якія-небудзь няўдалыя падарожнікі чакаюць у дарозе, пакуль скончыцца нянасьце?

Не, гэта звычайная сям'я ў звычайных абставінах. Нікуды яны не сьпяшаюцца: яны ў сваім доме—на лодцы. Зразумела, і яны жадаюць, каб дождж хутчэй скончыўся, але гэта ня надта ім рупіць, бо і дождж гэты таксама звычайнае зьявішча. І ўлетку, і ўзімку—ён заўсёды васеньні, халодны і цягнецца бывае цэлымі тыднямі.

Розьніца паміж летам і зімою толькі тая, што ўлетку ўсё-ж такі крыху цяплей, часам бывае 15° цяпла, часьцей выпадаюць сонечныя дзянькі, і нават раз у год здараецца навальніца з громам і маланкаю, а ўзімку разам з дажджом часта ідзе сьнег, але марозу, як гэта мы разумеем, усё роўна няма.

Там наверсе, на горах, мароз бывае, сьнег застаецца і ўлетку, і ледавікі сьпускаюцца ўніз, але тут, на вадзе, можна сказаць, заўсёды восень.

Вось чаму нашы жыхары былі спакойны і ня лічылі сябе няшчаснымі.

Народ гэты, так званыя фуіджы, здаўна ўжо жыве такім чынам у заходняй частцы Агнёвай Зямлі і бліжэйшых астравох ля Паўднёвай Амэрыкі, або, лепш сказаць, ля Магеляна-вай пратокі.

Калі бываюць людзі горныя, стэпавыя, людзі лясоў і г. д., дык тутака мы маем людзей мора, якія нараджаюцца, гадуюцца, жывуць і паміраюць на вадзе, на моры.

Жыцьцё, як мы бачым, не салодкае. Чаму-ж яны абралі сабе гэткі спосаб жыцьця?

Вельмі проста, бо на зямлі яшчэ горш, бо сядзець на голым камені сярод вады зусім немагчыма. І яны дапасавалі сваё жыцьцё да вады.

І ўвесь іх выгляд дапасаваўся да іх жыцьця. З прычыны таго, што ўвесь свой век яны праводзяць скурчыўшыся на лодцы, што яны ня маюць магчымацьці разьмяць сваё цела,

яно стала нейкае мяккае, пухкае, круглае, нібы раздутае, а рукі і ногі тонкія і кволыя. Асабліва кідаліся ў вочы маленькія дзецi: гэта былі нібы пузыры, у якія ўторкнуты тонкія дубцы.

Колер скуры брудна-жоўты, твар шырокі, вочы вузкія, але не касыя, як звычайна ў жоўтых людзей, а нос роўны, просты, нават прыгожы. Валасы чорныя, доўгія, спускаюцца ўніз, як кара, і каб іх не вырывалі сьпераду, то чалавек і сьвету ня бачыў-бы.

Ня гледзячы на халодны клімат, яны былі голыя, але ў кожнага з шыі спускалася скура якога-небудзь морскага зьвера—маржа, морскага катка. Гэтыя скуры трэба лічыць не адзеньнем, а заслонай ад ветру. Імі прыкрывалі той бок, адкуль дзьмуў вецер, а другі бок заставаўся голым.

Тут-жа на лодцы была і ўся гаспадарка сям'і: гліняныя гаршкі, плеценыя торбачкі, нажы, зброя. Прылады былі рознастайныя: і каменныя, і касьцяныя, і з морскіх чарапашак, і нават заржавелая жалезная сякера. Асабліва каштоўным быў нейкі доўгі кавалак жалеза з крукам на канцы і з дзіркамі пасярэдзіне. Відаць было, што ён калісьці быў дапасован да нейкай будоўлі, але як сюды трапіў—невядома. Багацьцем былі і два жалезных цьвікі.

Найважнейшае-ж месца займала вогнішча. Пасярэдзіне лодкі, досыць шырокай, была насыпана зямля і на ёй быў раскладзены агонь. Але ён ледзь тлеўся і не даваў ні сьвятла, ні цяплыні.

Дзяўчынка падкінула была кавалачак дрэва, але маці зараз-жа вызьвярылася на яе:

— Што ты робіш? Чаму адразу такі вялікі кавалак паклала?

І яна ўзяла гэты „вялікі кавалак“, велічынёю з лыжку, адламала ад яго кавалачак з палец і старанненька паклала ў вагонь.

Каб ахаваць агонь ад дажджу, на трох коліках была павешана сплеценая з морскай травы тканіна. Ды і паліва складалася галоўным чынам з гэтай самай морскай травы; хоць і высушаная, яна слаба гарэла, бо была насычана морскай сольлю.

— Калі дождж працягнецца, нам ня хопіць паліва,—дадаў Тойдо.

Ніхто нічога не адказаў, бо і самі гэта добра ведалі.

Вось сярод туману нешта заварушылася, і праз хвіліну зьявілася другая лодка.

— Хто гэта?—запытаўся ціха Тойдо.

— Здаецца, Кос,—адказаў сын.

Гэта і быў іх бліжэйшы сусед Кос, такі самы гаспадар, як і Тойдо.

— Гэй, Кос!—крыкнуў Тойдо:—Чаму і куды ў такое надвор'е?

— Есьці няма чаго,—пачуўся голас з туману, і лодка прайшла міма. Тойдо зірнуў на спод сваёй лодкі і заўважыў, што і там засталося толькі некалькі маленькіх рыбак ды чарапашак. Дзеці ўзялі іх і паклалі ў гарачы попел. І сам Тойдо хацеў есьці, але прыходзілася пацярпець.

Ён усё пазіраў на неба, ці ня відна канца дажджу.

— Зараз дождж скончыцца,—нарэшце сказаў ён:—хмары паразрываліся на кавалкі.

І сапраўды, дождж патроху сьціхаў. Вось ужо раз-другі і сонца блiснула. Вось ужо і астатнія кавалкі хмар праляцелі на ўсход,—і перад вачыма паўстаў дзіўны куток зямлі.

Гэта быў нібы горад, горад ня горшы за Нью-Ёрк, толькі... мёртвы. Ва ўсе бакі разыходзіліся, перапляталіся вуліцы-каналы, а па бакох іх уздымаліся чорныя дамы-скалы. Ніводзін

з іх ня быў падобны на другога, але ўсе разам стваралі ўражаньне казачнага гораду. Усе яны ўздымаліся сьцяной, ад некаторых выступалі ў ваду нібы ганкі, а вышэй бальконы. Уздымаліся цэрквы, вежы, вышынёю ў два кілёмэтры; верхавіны іх зьзялі на сонцы сваім адвечным сьнегам, а па бакох спаўзалі сінія ледавікі.

На рагу дзьвюх вуліц, з вышыні дзесяціпавярховага дому падаў вадаспад. Па дарозе вада рассыпалася ў пыл і грала на сонцы ўсімі колерамі. А на процілеглай чорнай сьцяне вызначалася вясёлка.



**Гэтыя блазны могуць нарабіць вялікай бяды.**

Чароўны, казачны горад, толькі жыхароў ня відаць. Апрача лодкі Тойдо, нідзе аніводнага чалавека. Але вось высока на выступе-бальконе аднаго гмаху паказаліся дзьве бела-шэрых постаці, а побач з чорных дзірак вокнаў выглядаюць яшчэ шмат белых дзяцей. Ці не жыхары вышлі палюбавацца добрым надвор'ем?

Вось пачуўся пралазьлівы крык; некалькі з іх зваліліся з вакна і паляцела ўдоўж вуліцы. Цяпер ужо відаць, што гэта чайкі, а тыя два вялікія—гэта альбатросы. Рэдка іх можна бачыць на зямлі. Часьцей іх бачаць у моры, за некалькі тысяч кілёмэтраў ад берагу. Недарма распасьцёртыя крыльлі іх маюць $2\frac{1}{2}$ мэтры ўшыркі!

Тутака яны могуць лічыць сябе роўнапраўнымі жыхарамі гораду. Ніхто ім ня можа пагражаць: эўропэйцаў тутака ніколі ня бывае, а гэтыя няшчасныя фуіджынцы, якія капошацца там унізе, ня могуць быць небясьпечны для іх.

Ну, а чайкі, дык тыя ўсюдых адчуваюць сябе нібы дома, усюдых падымаюць гармідар.

Але што гэта там такое? Нібы заварушыўся сьнег на скале! Потым узьляцела хмара птушак, але скала засталася такою самаю белаю, таксама варушылася і крычала.

Вось яно, самае галоўнае насельніцтва гэтага гораду! Відаць, ён не такі ўжо мёртвы, як здавалася.

Праз некаторы час заварушылася нешта і ў канцы вуліцы. З павароту выплылі два чорныя зьве, гуляючы ды куляючыся, сталі набліжацца да лодкі Тойдо.

Вада, якая заставалася спакойнаю нават у буру, цяпер захвалявалася, забілася аб сьцены. Рэха панясло па цясьніне.

Па фантанах вады, якая ўзьлятала над галовамі гэтых жывёлін, адразу можна было пазнаць, што гэта былі кіты, або дакладней, два маленькіх кіткі.

Трэба было толькі дзіву давацца, як спрытна рухаліся гэтыя нязграбныя жывёлы. То галовы, то хвасты мільгалі ў паветры, то ўсё цела цалкам выскаквала з вады, а потым плюхалася так, што ўсё навокала дрыжэла; то станавіліся рубам, то куляліся яны адзін праз аднаго. Адным словам, дурэлі, як належыць усім малым дзецям.

І дзеці Тойдо цешыліся, гледзячы на іх, крычалі, сьмяяліся, толькі самому Тойдо было не да сьмеху.

— Гэтыя блазны могуць нарабіць вялікай бяды,—сказаў ён і накіраваў лодку прэч ад раздурэўшых кіцянят.

Але тыя, угледзіўшы новую забаву, пачалі гнацца за лодкай, намерваючыся пагуляць з ёю. Справа рабілася ўжо небясьпечнай. Хвалі пачалі кідаць лодку ва ўсе бакі, некалькі разоў ледзь ня стукнулі аб сьцяну. Вось адзін кіток апынуўся побач з лодкай і, быццам жадаючы паказаць сябе, кульнуўся так, што хвост ледзь не зачапіў лодкі. Яна хіснулася, зачарпнула вады, дзеці спалохана запішчэлі.

— Налягай!— крыкнуў бацька сыну. Нават матка прыняла ўдзел, лёгкі човен ляцеў, як страла, але для кітоў гэта было пустой забавай. Яны не адставалі ні на крок і дурэлі так, нібы гэты човен быў для іх цацкай. На шчасьце, між двух дамоў знайшлася расчыненая брама,—праход між скал.

— Паварачвай!—закамандаваў Тойдо.

Манг мігам упёрся жардзінай у сьцяну, а бацька тымчасам хутка прасунуў човен у праход. Праз момант яны былі ўжо на „дзядзінцу“.

Кіты, відаць, зьдзівіліся такому хуткаму зьнікненьню цацкі і нават спыніліся на вуліцы ля брамы, але працісьнуцца праз яе ім было немагчыма. Ды яны і ня думалі гэтага рабіць: пырснулі з сваіх насоў і ўжо бяз гульні паплылі далей.

На поўдзень ад Агнёвай Зямлі заўсёды было шмат кітоў. Зразумела, ня было недахопу і ў кіталовах. Але ўсё-ж такі іх было менш, чымся ў паўночных морах. Папершае, далёка было ехаць, а падругое, гэта частка акіяну лічыцца самай неспакойнай, самай бурнай ва ўсім сьвеце. Нямнога можна налічыць людзей, якія праехалі тутака бяз буры.

Але ўсе буры нішто перад гэтымі скаламі, якія пільнуюць маракоў ня толькі над вадой, але і пад вадой.

Б'ецца карабель у моры, на сьмерць змагаецца з бурай, кожны момант знаходзіцца ён на валасіну ад сьмерці, але надзея ўсё-ж трымаецца ў сэрцы людзей. Толькі вось раздаецца крык:—Зямля!—І ад гэтага, здавалася-б жаданага слова, кроў стыне ў жылах, сэрца сьціскаецца, надзея гасьне, і сьмерць заглядае ў вочы.

І цяпер ужо на караблі толькі адна думка: уцячы як мага далей ад блаславёнай зямлі, туды, у гэты страшны цёмны акіян. Ён, гэты жудасны, бурны акіян цяпер ужо зьяўляецца ласкавым, мілым, жаданым.

Добрых вартаўнікоў мае зачараваны горад! Карыстаюцца гэтым і кіты; хоць самі яны і ня могуць зьмясьціцца ў вузкіх вуліцах, але затое ахвотна пасылаюць туды сваіх дзяцей.

Двор, у якім апынуўся човен Тойдо, мы-б назвалі маленькім возерам, або саджалкай сярод скал. Апрача галоўных сьцен, выступалі нібы надворныя будынкі, меншыя скалы, але ўсе разам шчыльна зачынялі выхад, акрамя брамы.

Праз поўгадзіны заўважылі, што вада пачала зьмяншацца,— пачынаўся адліў.

Людзі заварушыліся, зацікавіліся, але зусім ня гэтым звычайным для іх зьявішчам, а тым, што робіцца ўнізе пад чоўнам. Ці шмат спажывы пакіне адліў?

— Станьма ля выхаду,—прапанаваў Манг:—і пастараймася перашкодзіць рыбе ўцячы.

Так і зрабілі, ды яшчэ ўсе сталі шумець і плюхацца ў вадзе. А вада ўсё ўбывала, саджалка рабілася ўсё менш, і менш. Праз гадзіны дзьве човен стаяў ужо на голай зямлі, а ад возера засталася маленькая лужына.

Нельга сказаць, каб спажывы засталося надта многа. Дно гэтага кутка нельга было лічыць дном мора. Яно знаходзілася досыць высока і залівалася вадой толькі ў час прыліву. Значыцца, яно не магло мець свайго сталага насельніцтва. Траплялі сюды толькі выпадковыя рыбкі. Але ўсё-ж такі і яе набралося столькі, што павінна было хапіць для ўсёй сям'і дні на два.

Адліў-жа цягнуўся далей. Вада на вуліцы апусьцілася яшчэ мэтраў на пяць, канец лодкі вытыркаўся над ёй у паветры, як бальконна другім паверсе дома. Новыя каменьні зьявіліся па сярэдзіне вуліцы, некаторыя завулкі зачыніліся.



Го-о!—пачуўся голас зьнізу.

Але наша сям'я зусім не зварачала ўвагі на гэтыя зьмены. Ці першы раз здаралася з імі такое? Дзеці, у тым ліку і Манг, першыя выкарысталі выпадак, каб пабыць на цьвёрдай зямлі. З якой прыемнасьцю яны распрасталі ногі, пачалі поўзаць па скалах! З няменшай ахвотай павылазілі і бацькі.

— Го-о!—пачуўся голас зьнізу.

Зірнулі,—Кос варочаецца.

— Як у вас?—запытаўся Кос, задраўшы ўгору галаву.

— На два дні рыбы знайшлі,—адказаў Тойдо:—А вы?

— Таксама, ды яшчэ во,—і Кос паказаў забітую чайку.

У лодцы Коса было толькі тры чалавекі: ён сам, жонка ды 14-гадовая дачка Мгу, але недахоп мужчынскае сілы замяшчаўся ўмеласьцю жанчын добра плесьці з травы і лубу розныя рэчы: торбы, цыноўкі, асабліва-ж лодкі—„кану“. Манг ведаў, што і цяпер у іх ёсьць пачатая кану.

— Паліва маеш?—запытаўся Тойдо.

— Не. Вось я і хацеў прапанаваць табе ехаць разам.

— Добра. Тады пачакай тутака.

Пасьля доўгай непагадзі сонца здавалася такім цёплым, пяшчотным, што людзі разьмяклі і паступова паснулі. А вада тымчасам ізноў пачала падымацца Пад вечар лодка Коса дакранулася да лодкі Тойдо. А яшчэ праз гадзіну абедзьве лодкі плылі па вуліцы, нібы ніякага здарэньня з імі ня было.

## II

**Па паліва.—Сустрэча з караблём.—Пашыцьцё лодкі.—Чалавек у птушынай вопратцы.—Паляваньне на маржоў.—Сварка з-за скуры.**

Яшчэ з таго часу, калі Манг быў зусім маленькім хлопчыкам, ён заўсёды востра адчуваў адну нявыгоду іхняга жыцьця,—гэта тое, што яны заўсёды былі зьвязаны адзін з адным. Ён хацеў-бы пайсьці туды, ці туды, пабыць тутака, пахадзіць тамака, але нельга было; ён быў моцна прыкованы да сваёй лодкі, сваёй сям'і.

І з таго часу ён усё марыў толькі аб адным: каб быць вольным, каб мець магчымасьць плысьці туды, куды хочаш, і заставацца там, дзе табе падабаецца. А для гэтага трэба было мець сваю асобную, уласную „кану". Але яе маглі мець толькі самастойныя, дарослыя людзі. Нічога не заставалася, як толькі чакаць, пакуль ён вырасьце.

Вось надышоў яму семнаццаты-восемнаццаты год. Ужо сам бацька пачаў пагаварваць аб тым, каб падзяліцца, бо вельмі ўжо цесна рабілася ў лодцы.

— Вось надрасьце Мгу,—казаў ён:—возьмеш сабе яе за жонку. Добрая дзяўчына, майстроўка. І добрую лодку табе пашые.

Сэрца Манга забілася мацней пры думцы аб лодцы, але не аб дзяўчыне. Не аб тым, каб жаніцца, ён думаў, а аб волі. Эх, каб можна было атрымаць толькі кану, бяз жонкі!

Ён выказаў гэтую думку бацьку, але стары Тойдо нават не зразумеў, чаго ён хоча.

— Навошта табе адзін човен, калі можна разам атрымаць і човень і жонку? Я ўжо дагаварыўся аб гэтым з Косам.

Мангу нічога не заставалася, як толькі чакаць.

Для таго, каб пабудаваць кану, трэба было зрабіць з жэрдак краты, шкілет яе, а потым абшыць карой. Для першай часткі трэба было знайсьці дрэва, што зьяўляецца вельмі нялёгкай задачай, а для другой—знайсьці досыць кары, што таксама вельмі цяжка, ды пашыць яе, што зьяўляецца ўжо вялікім мастацтвам. Трэба дапасаваць лубяныя ніці— стужкі да дзірак такім чынам, каб ніводная кропля вады не пранікла. Гэта сапраўды вялікае мастацтва.

Манг надумаўся выкарыстаць гэтае падарожжа за палівам, каб здабыць сабе жэрдак і кары, а там ужо відаць будзе, што рабіць.

Усю ноч ішлі лодкі на поўнач па вуліцах і завулках. На другі дзень ля поўдня вышлі ў шырокую пратоку. Гэта і была Магелянава пратока.

Сьпераду ўздымаліся высокія сьнегавыя горы: то пачынаўся контынэнт Амэрыкі. Але і ён быў таксама зрэзаны рознымі маленькімі затокамі і пратокамі, як і тыя астравы, адкуль нашы падарожнікі прыехалі. Таксама нельга было даступіцца да стромкіх, голых скал. Толькі далей, у цясьнінах касмацілася расьліннасьць.

Налева пачынаўся Ціхі акіян, а направа пратока гублялася сярод скал.

— Гляньце, гляньце, лодка белых плыве!—закрычалі дзеці.

І сапраўды,—з-за скалы паказаўся карабель, вялікі, магутны.

Узварушыліся дзікуны, засьмяяліся, неяк заверашчалі, замахалі рукамі. Нават паважныя бацькі задурэлі ня менш ад дзяцей.

Гэта было адзнакай іх культурнасьці, адзнакай таго, што яны ўжо бачылі караблі, ведалі, што гэта такое, і ня толькі не баяліся, але, наадварот, радаваліся, бо ведалі, што ім нешта перападзе. Яны паплылі насустрэч караблю.

Там ужо заўважылі іх і згуртаваліся ля краю, каб падзівіцца на такіх рэдкіх, нязвычайных морскіх дзікуноў. Паляцелі зьверху кавалкі хлеба. Дзікуны кідаліся за імі нават у мора і тут-жа зьядалі прамоклы ў горка-салонай вадзе хлеб. І якім смачным ён ім здаваўся!

Нехта пастараўся кінуць дзецям помэранец, які яны адразу-ж пачалі есьці разам з лушпайкамі. Нейкі міласэрны пан не пашкадаваў кінуць добры складаны ножык, які падхапіў Манг.

Нездарма радаваліся дзікуны сустрэчы з караблём, але-ж затое ледзь і не пацярпелі: ад карабля ўзьняліся такія хвалі, што толькі гэтыя морскія людзі маглі неяк утрымацца, каб не перакуліцца.

Карабель прайшоў. Доўга глядзелі ўсьлед яму дзікуны, пакуль ён не павярнуўся направа і ня зьнік за скаламі. Рэдка ім здаралася бачыць карабель, раз ці два ў год, а то і менш, бо не маглі-ж яны ўвесь час пільнаваць тутака па дарозе. Ды і наогул караблі па Магелянавай пратоцы ходзяць рэдка, асабліва з таго часу, калі пракапалі Панамскі канал.

Карабель прайшоў, ізноў стала таксама, як было: вада, скалы і два чаўны. Нідзе ніякіх адзнак жыльля чалавека. І каб ня было ў руках некаторых рэчаў, можна было-б падумаць, што ўсё гэта прысьнілася.

— Адкуль яны плывуць і куды?—думаў Манг:—якім чынам і дзе пабудавалі яны такую вялізную кану? Адкуль яны

бяруць такія дзіўныя рэчы? Чаму яны так рэдка сустракаюцца. Шкода, што нельга ўбачыць іх зусім блізка. Якія гэта людзі, ды і наогул, ці людзі?

Мангу быў упэўнены, што гэтыя людзі, як усе іншыя на сьвеце, жывуць таксама на вадзе, толькі ў вялізарным кану. Але ў якім месцы яны знаходзяцца, чаму тутака заўсёды яны праяжджаюць толькі міма?

І ён запытаўся аб гэтым бацьку.

— Не,—адказаў стары Тойдо:—яны жывуць заўсёды на зямлі, на беразе і вельмі далёка. Кажуць, што ў іх на зямлі пабудованы такія самыя вялізныя кану. А на гэтых яны толькі часам праяжджаюць з месца на месца.

— Значыцца, яны заўсёды жывуць на адным месцы, на беразе?—зьдзівіўся Манг.

— Так.

— Чаго-ж ім сядзець на беразе, калі яны на такіх кану могуць жыць усюды, дзе захочуць? Хто-ж можа жыць заўсёды на адным месцы? Адкуль жа-ж ежы ўзяць?

Але на такія пытаньні стары Тойдо ня мог адказаць. А Манг рашыў абавязкова паглядзець на іх, калі ён будзе мець сваю ўласную кану.

Тымчасам яны перасеклі Магелянаву пратоку, прайшлі некалькі закавулкаў між скал і апынуліся ў досыць вялікім прыгожым возеры. Аточанае з усіх бакоў горамі, заўсёды ціхае, гэта возера зьяўлялася найлепшым прытулкам ня толькі для чоўнаў дзікуноў, але і для кожнага судна. Кавалак паперы ля берагу паказваў, што нейкае судна яшчэ нядаўна карысталася гэтым прытулкам.

На паўночным і заходнім баку відаць была расьліннасьць, але шмат часу прайшло, пакуль знайшлі зручнае месца, каб прыстаць і вылезьці. З поўкілёметра трэба было яшчэ

прапаўзьці па голых каменьнях, пакуль падышлі да хмызьняку. Але і хмызьняк быў нейкі нялюдзкі: каравы, кручаны, цьвёрды, як жалеза, і ён рос ня ўверх, а слаўся каля зямлі і пераплёўся так, што стварыў нейкі зыбучы насьціл, праз які людзі правальваліся на кожным кроку. А ўнізе было цёмна, вільготна. Спробвалі яго ламаць і секчы, але хутка пераканаліся, што нічога ня будзе. Ня з іхнымі прыладамі можна было брацца за такую працу.

Толькі ўсьцешылі іх нейкія чырвоныя ягады, нібы парэчкі, якія расьлі сярод гэтага паўзучага хмызьняку. Гэтыя ягады былі ім знаёмы: з іх яны нават умелі рабіць нейкае хмельнае пітво.

Жанчыны і дзеці засталіся зьбіраць іх, а мужчыны пайшлі далей, туды, дзе відаць быў лес.

Наперадзе ішоў Манг, які толькі і думаў аб тым, як здабыць сабе матар'ял для кану.

Лес быў таксама асаблівы, нібы скурчаны ад холаду, але складаўся ён з букавых і міртавых гатункаў дрэў, што растуць толькі ў цёплых краёх. Такая ўжо тутака прырода, што не разьбярэш, ці халодны клімат, ці цёплы.

Тутака ўжо гальля лягчэй было набраць, але-ж затое Манг набегаўся, пакуль знайшоў сабе больш-менш роўных жэрдак. А потым панадзіраў і кары. Асабліва дапамог яму складанчык, якім ён ужо навучыўся ўладаць.

— А ты ўсё-ж такі за сваё бярэшся!—незадаволена бурчэў бацька.

— Гэта-ж усё роўна будзе патрэбна,—апраўдваўся Манг.

Асабліва цяжка было перацягнуць усё гэта да лодак праз хмызьняковы насьціл, а потым па скалах. Да вечара яны пасьпелі прынесьці толькі па аднэй вязцы.

— А ну яго,—сказаў зморaны Тойдо:—лепш ужо ўжываць морскую траву.

— Калі прыехалі сюды, дык трэба ўжо набраць дрэва,— суцяшаў Кос.

Затое пераначавалі на беразе ля вогнішча, больш шчодрага, чымсь заўсёды. Ды і прыемна было вольна расьцягнуцца на зямлі пасьля шматдзённага сядзеньня ў лодцы.

Назаўтра прынесьлі яшчэ па некалькі вязак, а Манг перацягнуў усе свае матар'ялы.

— Ну, што цяпер будзеш рабіць з імі?—усьміхнуўся Тойдо.

— Човен,—адказаў Манг і пачаў наладжваць жэрдкі.

Старыя зірнулі адзін на аднаго і паківалі галовамі.

— Вось упарты які!—нібы сурова сказаў Тойдо, але відаць было, што ён ня злуе.

— Справа добрая,—падтрымаў Кос:—усё роўна—не цяпер, дык у наступным годзе рабіць прыдзецца.

А назаўтра абедзьве сям'і разам працавалі над лодкай. Мужчыны зьвязвалі з жэрдак рэбры лодкі, жанчыны сшывалі кару. Кос ахвяраваў і тое, што ў іх было раней пашыта. А Манг насіўся, нібы на крыльлях.

І ўсе прысутныя, нават дзеці, лічылі, што гэта шыецца дом для Манга і Мгу. Толькі адзін Манг аб гэтым ня думаў...

Праз чатыры дні побач з двума чаўнамі зьявіўся трэці. І ніводнага жалезнага цьвіка ня было ў гэтым чаўне. Цікава было-б ведаць, ці маглі-б нашы адукаваныя і культурныя майстры зрабіць такую рэч?

— Хай пацешыцца пакуль што,—казалі між сабой бацькі:—усё роўна Мгу яшчэ малая.

Ці ведала сама Мгу, што лёс яе зьвязваўся з гэтым чаўном? Зразумела, яна аб гэтым ня раз чула і лічыла справу вельмі простай і звычайнай: калі старэйшыя так кажуць, зна-

чыцца так трэба. Дый, уласна кажучы, яна нічога і не магла мець супроць. Іхнія сем'і даўно ўжо жывуць дружна, разам і адчуваюць сябе нібы адна сям'я. Іншыя суседзі сустракаліся рэдка, бо ўмовы жыцьця не дазвалялі шмат чаўнам жыць разам. Нават і два чаўны разам бывалі рэдкасьцю. Толькі Тойдо і Кос часьцей сустракаліся і даўно ўжо парашылі пажаніць сваіх дзяцей.

Чаўны выехалі з возера. Манг насіўся ў сваім чаўне навакол, як шалёны: то перагоніць, то адстане, то ад'едзе ўбок. Ён быў вольны, ён мог адлучацца, калі захоча, ехаць куды пажадае! Гэта быў самы шчасьлівы момант у яго жыцьці.

Праз некаторы час яны ўбачылі яшчэ адзін човен, які, як відаць, накіроўваўся да іх.

— Здаецца, гэта Нгара,—прамовіў Кос.

— І, відаць, мае справу да нас,—сказаў Тойдо.

— Гэй, стойце!—крыкнуў новы чалавек.

Чаўны спыніліся. Пад'ехаў Нгара. Гэта быў чалавек гадоў 25, апрануты ў вельмі дзіўную вопратку: яна была пашыта з птушыных скурак. Такое адзеньне было ня горш за зьвярыную скуру, але ўсё-ж такі кожны мужчына марыў набыць сапраўдную. Бяда толькі ў тым, што ў іх становішчы—гэта вельмі цяжкая справа. Забіць, напрыклад, маржа цяжка нават добра ўзброеным людзям, а пра гэтых і казаць няма чаго.

— Ля Белай Гары зьявіліся маржы,—сказаў Нгара:—Ідзем на іх.

Зразумела, мужчыны з радасьцю згадзіліся.

— Ці хопіць людзей?—запытаўся Тойдо:—Колькі іх там?

— Я бачыў трох. Чатырох чалавек хопіць.

І чаўны зноў накіраваліся ў завулкі. Праз дзьве гадзіны пад'ехалі да апошніх скал, якія высоўваліся ў акіян.

— Ціха!—даў знак Нгара:—Вунь там.

Чаўны спыніліся. Мужчыны вылезьлі на бераг і асьцярожна зірнулі з-за скалы.

Ля падножжа скалы была роўная пляцоўка. З двух бакоў уздымаліся сьцены, а трэцяя выходзіла ў мора. На пляцоўцы грэліся на сонцы два маржы; трэці, відаць маленькі, плюхаўся ў моры.

— Калі раптам з-за сьцяны выскачыць,—шаптаў Нгара,— і загарадзіць дарогу ў мора, тады можна абодвых захапіць.

— Але па зямлі падступіцца нельга: прыдзецца на чаўнох.

— Усё роўна, можна і на чаўнох.

Пачалі рыхтавацца. Жанчын і дзяцей высадзілі на бераг. Выгрузілі і свае рэчы. У кожным з чатырох чаўноў было па адным мужчыне. Выстраіліся ў шэраг і па камандзе з гікам вылецелі з-за скалы. Мігам чатыры лодкі загарадзілі бераг пляцоўкі.

У першы момант маржы былі так зьдзіўлены, што нават не крануліся, а людзі тымчасам пачалі вылазіць на бераг. Але праз момант зарохкалі, заварушыліся і маржы. Нязграбна пачалі яны рухаць сваімі ластамі-лапамі, білі хвастом, абапіраліся аб зямлю сваімі клыкамі.

У гэты момант ля чоўна Коса паказаўся малы маржок. Убачыўшы яго, маржыха яшчэ больш напружылася, нея падскочыла і пакацілася да берагу. Не пасьпеўшы вылезьці з чоўна, Кос павінен быў сам адхіснуцца ад яе. Тойдо кінуўся з сякерай, але пасьпеў толькі лёгка крануць па сьпіне. Маржыха плюхнулася ў ваду, зачапіла човен Коса, перавярнула яго і зьнікла. Тойдо кінуўся на дапамогу Косу, і яны абодвы нават забыліся аб другім маржы.

А той тымчасам поўз у бок Нгара. Бераг у гэтым месцы быў пакаты, і Нгара ня мог шчыльна да яго наблізіцца. Паміж чоўнам і пляцоўкай заставалася на тры-чатыры крокі вада,

куды і накіроўваўся морж. Нгара ўжо вылез на гэты падводны бераг і, каб утрымаць зьвера, кінуў у яго кап'ё, стоячы па калені ў вадзе

Кап'ё ўвашло ў бок, але сам Нгара пасьлізнуўся і паляцеў у ваду, а разьяраны зьвер кінуўся за ім. У гэты момант Манг ужо быў на беразе і рушыўся на дапамогу. У руках яго быў той цяжкі, крывы кавалак жалеза, які мы бачылі ў чоўне Тойдо. Храснула галава, закруціўся зьвер і нават хвастом зьбіў з ног самога Манга. Тут ужо падасьпелі Тойдо з Косам, а хутка і сам Нгара,—і праз хвіліну справа была скончана.

Тады перавезьлі сюды сем'і і весела прыняліся парадкаваць здабычу.

Але хутка радасьць была сапсавана непаразуменьнем. Паўстала пытаньне, каму аддаць скуру? Збоку гледзячы, здавалася-б, што яе павінен быў атрымаць Манг, але Нгара ніяк не згаджаўся на гэта.

— Я-ж выкрыў маржоў, я-ж вас прывёў сюды,—даводзіў ён.

— Адным паказам зьвера ня зловіш,—адказвалі яму.

— Я-ж першы ўсадзіў у яго кап'ё; ён ужо быў паранены, а вы толькі дабілі яго,—не здаваўся Нгара.

— Ну, браце, з тваім кап'ём ён ледзь цябе самога ня зьеў.

— Але каб ня я, дык вы нічога гэтага ня мелі-б.

— Ну, а каб ня я, дык цябе самога ў жывых ня было-бы,—раззлаваўся Манг.

— Дзякуй, што тваё жыцьцё выратавалі,—дадаў Тойдо.

— Вы карыстаецеся тым, што вас трое супроць аднаго,—з запалам крычаў Нгара.

— Ніхто тутака ня супроць каго,—лагодна сказаў Кос:—Усе разам палявалі. Але трэба па справядлівасьці: хто забіў—таму і скура.



У гэты момант Манг кінуўся на дапамогу.

— Значыцца, павашаму, хто апошні ўдарыў напалову забітага зьвера, той і забіў? насьмешліва сказаў Нгара.

Ізноў пачалося ўсё спачатку.

Урэшце Нгара адмовіўся ад сваёй часткі мяса, ускочыў у човен і, ад'яжджаючы, сказаў:

— Паглядзім, якая будзе справядлівасьць, калі мы сустрэнемся з роўнымі сіламі.

Хоць пагроза і не спалохала мужчын, але ўражаньне засталося цяжкае.

— А можа і лепш было аддаць гэтаму вар'яту скуру, каб ня зьвязвацца з ім?—сказаў міралюбны Кос.

Але бацька і сын запярэчылі.

— З якой рацыі? Запытайся каго хочаш, кожны скажа, што яго дамаганьні несправядлівыя. А пагрозы можна пачуць на кожным кроку. Асабліва ад яго.

---

## III

**Вандраваньні Манга.—Нязвычайнае войска.—Бойня.—Напіліся крыві.—Няпрыемная ноч.**

З таго часу, як Манг набыў свой уласны човен, ён зрабіўся нібы разьведчыкам для сваіх бацькоў, а разам, зразумела, і для Коса. Ніколі Манга дома ня было, усё ён недзе валэндаўся, але хутка выявілася, што гэта бадзяньне вельмі карысна для абедзьвюх сем'яў: Манг хутчэй знаходзіў які-небудзь багаты куток і праводзіў туды сваіх бацькоў.

Часам Манг браў з сабой і свайго шасьцігадовага брацика. Яны езьдзілі па калідорах між нязьлічонымі астраўкамі і на кожным кроку бачылі новы малюнак, не падобны да папярэдняга. То траплялі ў такую цясьніну, або шчыліну, што толькі высока наверсе відаць была істужка неба, паабапал-жа ўздымаліся роўныя стромкія сьцены. То выяжджалі на сьветлы вясёлы прастор, дзе сярод бліскучага мора чарнеліся маленькія кропкі-выспачкі, а воддаль зьзялі белыя сьнежныя верхавіны. То выяжджалі за межы гораду; тады перад імі цяжка дыхаў Вялікі акіян. Цёмна-сінія хвалі бясшумна каціліся на іх, а дакаціўшыся да скал раптам раўлі, кідаліся, рассыпаліся ў бырзкі, з нездаволеным гулам адыходзілі назад, а потым зноў кідаліся.

Сталецьці, тысячалецьці кідаецца акіян на скалы. Цьвёрда стаяць яны на варце, трымаюцца, каб ня пусьціць хвалі ў

сярэдзіну, але з працягам часу то адна, то другая падмываюцца і рушацца ў ваду. Вось яшчэ адна скала ледзь трымаецца; падножжа яе нібы выгрызена, глыбока ўваходзіць у сярэдзіну, а верхавіна вісіць над бяздоньнем і вось-вось упадзе.

У такіх мясцох небясьпечна плаваць. Падхопіць хваля човен, шыбане яго аб скалу,—і тады канец.

— Я баюся,—пішчыць маленькі хлопчык,—едзем назад!

Манг прымушан вяртацца, але дае сабе слова ў другі раз, калі будзе адзін, абавязкова выбрацца туды, на прастору. Можа тамака і ляжыць тая зямля, дзе жывуць цудоўныя белыя людзі?

Людзі сустракаюцца вельмі рэдка. Сям-там убачыш адну ці дзьве кану, якія капошацца ў ціхім кутку ля берагу, вышукваючы спажыву, а потым у працягу некалькіх дзён ня ўбачыш ніводнага. Колькі ўсяго гэтага народу налічваецца—ніхто ня ведае. Думаюць, што засталася ня болей 400—500 чалавек.

Самі яны ніколі разам не сабіраюцца, ня маюць аніякай арганізацыі, нават ня маюць сваіх старшынь ці правадыроў. Так і жывуць паасобку, усе роўныя і самастойныя. На паперы належаць да Чылійскай рэспублікі, але яны столькі самі ведаюць сваю рэспубліку, як і яна іх.

Толькі птушак усюды было многа. Часам яны так крычалі навакол, што заглушалі гутарку. Усе гэтыя птушкі таксама, як і людзі, жылі выключна за кошт мора.

Хлопцы ехалі сярод невялічкіх астраўкоў. Направа яны былі раскіданы сям і там, нібы плямы на шкле, зьлева-ж яны зьліліся ў адзін ланцуг.

Ужо на працягу некаторага часу да хлапцоў даносіўся незразумелы шум: нібы гоман і шорах шматлікага натоўпу. Спачатку хлопцы не зварачалі на гэта ўвагі, тым болей, што наогул птушынага крыку было досыць. Але нарэшце зацікавіліся.



— Здаецца, там, на тым баку,- сказаў хлопчык.

Манг прыпыніўся, прыслухаўся. Сапраўды, з левага боку, па-за скаламі, нешта рабілася. Асабліва цікава было тое, што крыку ня было, а, між тым, выразна чуўся нейкі гул, варушэньне.

Падплылі да берагу, вылезьлі і асьцярожна папаўзьлі ўверх. Зірнулі з-за скалы і ўбачылі дзіўнае зьявішча.

На нізкім, роўным беразе, тварам да мора, выстраілася шматлікае... войска! Роўнымі шэрагамі, нярухомыя і маўчлівыя сталі атрады „салдат“. Перад імі хадзілі нібы камандзіры, якія час-ад-часу кідаліся ў мора, давалі нырца і потым ізноў падыходзілі і, размахваючы рукамі, нешта казалі сваім салдатам

Выстраілася, шматлікае войска.

Уражаньне рабілася яшчэ мацнейшым ад таго, што ўсе былі, як адзін: чорныя сьпіны і бакі і белы перад. Толькі адзін

атрад быў нейкі абшарпаны: адзеньне парванае, месцамі відаць было голае цела. Ростам яны былі прыблізна каля аднаго мэтра, некаторыя і болей.

Асобны атрад складалі маладыя, так сказаць, піонэры. А далей ужо сядзела на зямлі шмат народу, відаць, жанчыны. Парадак быў суровы: калі хто-небудзь падыходзіў да чужога атраду, дык зараз-жа яго адтуль гналі.

Хоць нашым хлапцом і знаёмы былі гэтыя салдаты, але і яны доўга дзівіліся, гледзячы на гэты нязвычайны народ. І ўсе, каму здаралася бачыць іх, не маглі надзівіцца на гэтых птушак, пінгвінаў.

Звычайна пінгвіны час праводзяць у вадзе, дзе адчуваюць сябе, як рыбы. На беразе яны зьбіраюцца, каб вывесьці дзяцей. Па зямлі ходзяць выключна на дзьвюх нагах, а замест крыльляў у іх ласты, прыблізна такія, як у маржоў. Вось чаму яны і лётаць ня могуць, вось чаму гэтыя ласты-крыльлі вельмі нагадваюць рукі, асабліва, калі яны рухаюцца пры хадзе.

Сьпіна іх пакрыта пер'ем, падобным да рыбінай лускі і дапасаваным накшталт гонтаў на даху. Толькі перад пакрыт белым пухам, ды на галаве тырчыць некалькі нібы шчэць пер'яў.

Зразумела, Манг захацеў налавіць гэтых птушак. Хоць мяса іх і ня смачнае, але фуіджынцы ня могуць адмовіцца і ад яго. Апрача гэтага, і скуры спатрэбяцца на адзеньне.

Бяда толькі ў тым, што даступіцца да іх было немагчыма. Тыя скалы, дзе былі хлопцы, аддзяляліся ад стойбішча пінгвінаў вадой. Града скал ішла далёка наперад, паступова павышалася і пераходзіла ў высокія горы, так што з гэтага боку абыйсьці нельга было. Заставаўся другі канец, які выходзіў у мора, але там між каменьняў былі такія буруны (прыбой), што аб' яжджаць было-б вельмі рызыкоўна. Не дарма пінгвіны выбралі такое месца.

Тады Манг парашыў ехаць да сваіх і потым ужо меркаваць усім разам. Пакуль яны прыехалі дадому, надышоў вечар. Прышлося адкласьці падарожжа назаўтра.

Калі назаўтрае прыехалі ўсе, ніякіх зьмен ня было. Войска стаяла таксама, нібы яно і ня краталася за ўвесь гэты час. Таксама частка пінгвінаў плавала ў вадзе, нібы тыя самыя, што і ўчора. У рэчавістасьці, зразумела, кожны раз былі іншыя.

Пачалі раіцца, што рабіць?

— Я адзін аб'еду навакол, ад мора,—прапанаваў Манг.

Але стары Кос не згадзіўся.

— Лепш будзе,—сказаў ён,—перацягнуць кану на той бок.

З гэтай простай прапановай нельга было не згадзіцца, асабліва, калі прыняць пад увагу лёгкасьць „шытых“ чаўноў. Павінен быў згадзіцца і Манг, хоць яму і вельмі хацелася паказаць сваё гэройства.

Праз некалькі хвілін чаўны былі ўжо на тым баку. Але не абышлося без няшчасьця: у чаўне Тойдо прапароўся спод аб востры камень, а лішняй кары ня было, каб залатаць. Пастаялі, паскраблі галаву і рашылі, пакуль што, так пакінуць, а цяпер узяцца за паляваньне.

Пінгвіны, між тым, зьдзіўлена глядзелі на нечаканых гасьцей і ня рухаліся з месца. Толькі, калі два чаўны пад'ехалі да іх і людзі высадзіліся на бераг,—пінгвіны пачалі паважна і нязграбна адыходзіць.

Пачалася бойка. „Салдаты“, здалёку меўшыя такі грозны выгляд, аказаліся зусім бездапаможнымі ў бойцы. Яны кінуліся ўцякаць у ваду, але якое гэта было ўцяканьне? Яны ледзь рухаліся на сваіх дзьвюх нагах, валіліся на зямлю, бездапаможна біліся ластамі-рукамі, куляліся. Жудасна было глядзець, як гінулі гэтыя бязьвінныя, бездапаможныя стварэньні. Вельмі лёгка было набіць іх, колькі ўлезе.

Паляўнічы запал абхапіў людзей, і яны сапраўды забілі іх значна болей, чымся патрэбна. Першы схамянуўся Кос.

— Стойце! Досыць!—крыкнуў ён,—хопіць ужо! Яшчэ пасьпеем, калі трэба будзе!

Яго падтрымаў Тойдо, і бойка была спынена. Навакол ляжала 60—80 забітых птушак. Калі прыняць пад увагу, што кожная з іх была з авечку, дык выходзіў запас, якога хапіла-б на полк салдат.

Але гэта было нішто перад усёй колькасьцю пінгвінавай арміі, якая складала тысяч 30—40. Усё мора пакрылася пінгвінамі, але ўсё-ж такі яшчэ, прынамсі, палова засталася на беразе. Папершае, засталіся ўсе самкі, якія воддаль сядзелі на яйках. А там далёка, як і раней, стаялі роўныя шэрагі нязьлічонага войска, якія яшчэ не зразумелі, што такое адбываецца, і толькі неўразуменна пазіралі на мятусіну.

Цяпер трэба было ўпарадкаваць усю гэту здабычу. Гэта праца была куды цяжэй і марудней, чымся самае паляваньне. Праўда, мяса яны ня прывыклі запасіць надоўга, напрыклад, сушыць, бо ўвесь год мора давала ім якую-небудзь сьвежаніну. Але-ж затое са скурамі было шмат клопату: зьняць, крыху апрацаваць, падсушыць.

Праз некаторы час увесь бераг пакрыўся скурамі, але яны ня былі прыбіты да зямлі: сохлі ды круціліся, як луб. Доўга яшчэ прыдзецца іх церці ды мяць, пакуль можна будзе ўжываць. Прынесьлі з чаўноў агонь, расклалі вогнішча, засмажылі мяса. Але трэба адзначыць, што нават і гэтым людзям ня вельмі падабалася такое мяса. Лішнія тушы кідалі ў мора.

А ў воддалі ўсё стаяла грознае, нязьлічонае войска і пазірала, як ворагі распраўляюцца з іх таварышамі.

Раптам пачуўся плач дзяўчынкі. Азірнуліся,—бяжыць яна ад пінгвінавых гнёздаў і плача.

— Што такое?—запыталіся яе.

— Укусіла тая птушка,—паказала дзяўчынка на бліжэйшую самку.

— Ну, дык я ёй пакажу!—сказаў маленькі хлопчык і пабег туды.

Але і ён нічога ня мог зрабіць. Самка баранілася, кусалася і ня сходзіла з месца. Зацікавілася Мгу і таксама падышла; пабегла за ёй і маленькая дзяўчынка.

Убачыўшы столькі народу, самка ўстала, каб адыйсьці, але разам з сабой захацела ўзяць і сваё яйка. Яна выкаціла яго з зямлі, потым сьціснула паміж сваіх ног і зрабіла крок. Зразумела, яйка вывалілася. Самка ізноў сьціснула, ізноў ступіла, потым паспрабавала скокнуць з яйкам і адышла толькі тады, калі яйка зусім пабілася. Дзеці былі вельмі зацікаўлены і не ганялі птушкі, пакуль яна сама не пайшла.

Наогул трэба адзначыць, што пінгвіны вельмі шануюць і берагуць свае яйкі. Мала гэтага, яны гатовы выкарыстаць выпадак, каб украсьці чужое яйка. Здараецца нават, што дужэйшыя нападаюць на слабейшых, каб адабраць ад іх яйкі гвалтоўна.

Надыходзіць вечар, а здабыча яшчэ ня была ўся ўпарадкавана. Прышлося рэшту пакінуць. Хацелі ўжо ехаць, але прыпомнілі, што човен Тойдо не папраўлены. А кары няма. Што тут рабіць?

— Можна залатаць скурамі,—запрапанавала Мгу.

— Мгу добрая, разумная дзяўчына,—сказаў абрадаваны Тойдо, дакрануўшыся да яе. Але пачынаць такую марудную работу было ўжо позна і прышлося застацца тутака начаваць.

Тутака асабліва адчулася яшчэ адна бяда: не хапіла вады для піцьця. Сьпяшаючыся на паляваньне, забыліся яе назапасіць, і яна ўся вышла яшчэ перад поўднем. Да гэтага часу

цярпелі і цешылі сябе тым, што скора паедуць назад. А цяпер, асабліва пасьля мяса, зусім стала дрэнна. Дзеці пачалі плакаць.

А за некалькі крокаў плюскатала і вабіла да сябе вада, такая чыстая, добрая... Што можа быць горш, як глядзець на ваду і паміраць ад смагі? Лепш ужо тады цярпець тую самую смагу без вады. Дзеці ня вытрымалі і пабеглі да яе.

— Куды? Нельга! Нельга!—закрычалі дарослыя і кінуліся за імі. Адцягнулі іх, маці пачала суцяшаць, угаварваць, а ў самой сэрца разрывалася ад жалю.

Старыя хадзілі пахмурыя і раіліся, што рабіць.

— Вось да тэй гары, здаецца, недалёка,—казаў Кос:— Можна зьезьдзіць туды ды прывезьці вады ці лёду?

— Немагчыма,—уздыхаў Тойдо:—Пакуль даедзем, будзе ўжо цёмна, можна наляцець на камень у незнаёмым месцы. А, падругое, мы ня ведаем месца, дзе ледавік спускаецца, ці вада цячэ, а сярод начы немажліва поўзаць ды шукаць.

Сонца апускалася ў акіян. Пасмы хмар зьбіраліся на небасхіле. Праменьні прабіваліся праз іх, афарбованыя ў чырвоныя і ружовыя колеры. Вада і скалы паступова зьліваліся ў цемры. А над імі чырванелі сьнегавыя верхавіны гор.

Пачалі рыхтавацца да начлегу. Але смага не давала паснуць.

Раптам яны пачулі, што нехта ідзе да іх. Паўскаквалі, прыгледзеліся: гэта быў Манг, адсутнасьць якога яны не заўважылі. Ён валок пінгвіна. Падышоў, адрэзаў галаву і сказаў:

— Наце, піце!

— Як? Што?

— Ды кроў. Я напіўся. Раю і ўсім.

Нельга сказаць, каб пітво было добрае, але ўсё-ж такі лепш, чым нічога. Мужчыны пайшлі і прынесьлі яшчэ двух

пінгвінаў. Пасьля гэтага паснулі—мужчыны на зямлі, а жанчыны з дзецьмі на чаўнох.

Акіян глуха гудзеў. Хвалі бязупынна наляталі і разьбіваліся аб каменьні. Вецер крапчэў. Пачаў пырскаць дождж. Агонь пагас.

Людзі прачнуліся, закапаліся ў скуры. Але дождж мацнеў.

Вось ужо і спаць нельга. Прышлося зусім устаць. А халодны вецер з мора, бяз усякіх перашкод, так і сячэ з даждджом.

Хоць-бы які-небудзь прытулак знайсьці!

Але месца адкрытае з мора, няма аніякай высокай скалы.

— Давайце пераверпем чаўны,—запрапанаваў нехта.

Так і зрабілі. Пад чаўнамі было значна лепей. Толькі вада падцякала па зямлі. Такім чынам прабылі ноч. Адна толькі ўцеха была ў гэтым становішчы: добрай вады напіліся ўволю.

Дзень настаў хмарны. Дождж то спыняўся, то зноў пачынаў. Але і гэта радавала людзей.

— Добра яшчэ, што вялікага дажджу і буры няма,—казалі старыя:—Хутчэй-бы паправіць лодку ды выехаць з гэтага адкрытага месца.

Праз дзьве гадзіны лодка была залатана, і ўсе паехалі назад.

## IV

**Новая стаянка.—Падводны лес.—Выгоды на 100 проц.— Непажаданы сусед.**

Большасьць фуіджынцаў трымаецца ў паўднёвай частцы архіпэлягу (згуртаваньне астравоў), куды ніхто з чужых не заглядае. Нельга сказаць, каб яны так ужо баяліся выпадковага падарожніка. З гэтым зьвязана другая справа: там, дзе ня бывае белых людзей з іх стрэльбамі, там звычайна зьбіраюцца розныя жывёлы, асабліва птушкі. А сярод іх знойдуцца і смачнейшыя за пінгвінаў.

Але Манг усё імкнуўся на поўнач, бліжэй да белых. Хоць нідзе іх тутака ня было, але ўсё-ж такі Манг ведаў, што яны жывуць у гэтым кірунку. Прынамсі, іхнія караблі праяжджалі толькі тутака. Пасьля тэй сустрэчы яму аднаму яшчэ раз удалася бачыць карабель, але здалёку,—бліжэй ён не пасьпеў пад‘ехаць.

У гэтым-жа кірунку, за Магелянавай пратокай, ён натрапіў на адзін куток, які на доўгі час мог служыць „домам“ для яго бацькоў. Гэта была маленькая затока, нібы вазярцо, так агароджанае скаламі, што ні вецер, ні хвалі не дасягалі сюды. У гэтых адносінах куток быў падобны да таго возера, куды яны езьдзілі за драўмі, толькі гэты быў значна меншым і больш прытульным, цёплым.

— Асабліва тутака павінна быць добра ўзімку,—казаў ён бацьком.

Гэты куток яны і абралі сваім домам. Знайшлася там нават пляцоўка, куды яны паклалі лішнія рэчы і дзе маглі спаць. Толькі для гэтага прышлося прагнаць птушак, якія чамусьці асабліва лезьлі сюды. А за некалькі крокаў зьверху працякаў ручаёчак прэснай вады. Адным словам, хата была са ўсімі выгодамі.

Апрача ўсяго гэтага выявілася, што пад імі ў вадзе расьце нібы лес, а ў гэтым лесе нязьлічонае мноства „дзічыны“.

Першы раз заўважылі гэта ў час адліву. Калі вада зьнізілася, у ёй паказалася гальлё, распасьцёртае ўшырыню. Гэта ня была морская трава, а сапраўднае дрэва, з галінамі, таўшчынёю з руку, і з доўгім вузкім лісьцем. Гэта лісьце, даўжынёю ў мэтр, варушылася, выгіналася, нібы зьмеі. Гальлё так разраслося, што стварыла падводны гушчар ва ўсёй затоцы.

А між тым, гэта было ўсяго толькі адно дрэва, са стваалом у поўмэтра таўшчыні *).

Калі зачапілі і прыпаднялі адну такую галіну, дык на ёй знайшлі столькі рознага дабра, што ў нашых людзей аж сьліна пацякла з рота. Чаго толькі тут ня было? Чарапашкі, малюскі, маленькія ракі, мядузы, анэмоны, розныя чарвячкі,—адным словам, усё тое, чым любілі ласавацца нашы фуіджынцы.

— Глядзеце! Глядзеце! І крабы!—весела закрычалі дзеці.

Сапраўды, у разгалінаваньні гэтага дрэва разьмясьцілася цэлая сям‘я крабаў. Стары краб злосна пазіраў і адчыняў

*) Завецца яно фукус, альбо альга. Яно досыць распаўсюджана, але такой велічыні дасягае толькі ў гэтых мясцох. Адно дрэва часам займае месца на 200 мэтраў ушыркі.

свае страшэнныя клюшні, але зараз-жа яго ўхапілі і разьбілі аб човен.

— Яшчэ адзін!—крыкнуў Кос і зьняў другога. Потым знайшоўся і трэці.

Гэтыя вялізарныя ракі зьяўляюцца такой смачнай стравай, што Манг пачаў есьці іх сырымі.

— Зірнеце толькі, што робіцца ў вадзе!—сказала Мгу.

А ў вадзе была нібы каша ад мноства рыб, асабліва маленькіх. Старыя рыбы выбралі гэты куток, каб адкладваць тутака сваю ікру. Лепшага месца для гэтай справы нельга было прыдумаць. Сюды не дасягала ніводная хваля, і рыбы спакойна пладзіліся „ў лесе“. Недарма і птушкі аблюбавалі гэтае месца.

Гэта быў нібы зусім асобны сьвет. Усе тут знаходзілі сабе спажыву. Дужэйшы паядаў слабейшага, але насельніцтва ад гэтага не зьменшалася. Усе знаходзілі прытулак сярод гасьціннага дрэва. Каб яны не паядалі адзін аднаго, тады-б ім і паварушыцца недзе было-б. А нарэшце над усімі імі зьявіўся чалавек.

Галіну абабралі, як плады ў садзе, і зноў апусьцілі ў ваду.

— Хай ізноў абрастае!—сьмяяліся бацькі.

Але і на гэтым баль ня скончыўся. Нарэшце паласаваліся нават „гароднінай“. Маладое лісьце альгі можна есьці. Набралі яго, паклалі ў гаршчок, зварылі і наеліся так, як даўно ўжо ня елі. Трэба памятаць, што зеляніна для чалавека неабходна, а нашыя людзі ў працягу месяцаў і ў вочы яе ня бачылі.

А навакол яшчэ плавалі іншыя „запасы“,—качкі, мяса каторых куды смачнейшае за пінгвінавае, хоць гэтыя качкі

некалькі і нагадвалі пінгвінаў сваімі крыльлямі. Яны таксама ня могуць лётаць, а толькі плаваюць і пры гэтым хутка і гучна б'юць па вадзе крыльлямі, дзеля чаго іх празвалі „качкі-параходы“.

Як мы ўжо казалі, у адным месцы на беразе была досыць роўная пляцоўка. Спачатку адзін-другі вылез, паклалі некаторыя рэчы, расклалі вогнішча *), а потым ужо зрабілі павець. Такім спосабам паступова і зусім перайшлі на зямлю .



**Галіну абабралі, як плады ў садзе.**

Нельга думаць, што яны так ужо ніколі і ня жылі на зямлі. Здаралася гэта, і ня раз, калі трапляліся спрыяючыя абставіны. Але такія абставіны былі вельмі і вельмі рэдка. У кожным разе, лепш чым цяперака ім ніколі ня было. І страха над галавой, і сьцяна з боку, і досыць месца, каб вольна разьмясьціцца, нарэшце, скуры пад бокам,—усё гэта было так прытульна, што можна было адпачыць целам і духам за ўсе папярэднія месяцы.

*) Агонь яны высякаюць з крамяня, як і ў нас у даўнейшыя часы

Мы ўжо бачылі, што гэтыя дзеці вады хоць і жывуць морам, але рыбакамі назваць іх нельга, бо яны нават і прыладаў для лоўлі рыбы ня мелі.

Яны толькі калупаліся ў шчылінах скал, ловячы маленькіх рыбак ці проста рукамі, ці торбачкай або тканінай. Толькі калі-ні-калі ім здаралася забіваць кап'ём больш буйную рыбіну.

Цяпер, гледзячы на рыбу ў вадзе пад нагамі, яны востра адчувалі, што ім чагосьці не хапае, каб дастаць гэтай рыбы. Праўда, яны і тутака лавілі яе ля самога берагу, як заўсёды, у шчыліне, але гэта іх не здавальняла. Хацелася дастаць больш, непасрэдна адтуль з глыбіні.

Манг доўга над гэтым думаў і нарэшце дадумаўся. Узяў торбу, прыладзіў да яе абруч і прывязаў да кія. Апусьціўшы ў ваду свой коўш, ён адразу выцягнуў шмат рыбы. Гэта выклікала вялікую радасьць сяброў, і яны доўга цешыліся такой лоўляй, нават без патрэбы.

Некалькі дзён ніхто нікуды і носу не паказваў. Спакойна прасядзелі і два бурных дні. За скаламі ў акіяне гулі хвалі, недзе высока над галавой роў вецер, а тутака ў іх было ціха і спакойна. Адно толькі было нядобра,—паліва ўсё вышла.

Калі надвор'е праясьнілася, спрабавалі пашукаць паліва. На захад, з боку мора, былі голыя скалы, на ўсход—сьцяна; але ў гэтым кірунку павінна былаісьці зямля ці значны востраў, ці нават і самы кантынэнт Паўднёвай Амэрыкі. Туды і накіраваліся трое мужчын.

Але як выбрацца з гэтай студні? Доўга шукалі месца, дзе можна было-б як-небудзь зачапіцца. Урэшце знайшлі некалькі выступаў і палезьлі ўверх, рызыкуючы кожны момант паляцець уніз і разьбіцца насьмерць.

Падняўшыся мэтраў на дваццаць, апынуліся на новай пляцоўцы. Пасярэдзіне яе было невялічкае возера або са-

джалка, з якой і выцякаў той самы ручай, які падаў уніз і даваў ваду для піцьця. А з другога боку таксама ішла сьцяна, і таксама зьверху падаў ручаёчак, — ён даваў ваду возеру. Яшчэ падняліся і зноў знашлі такую самую пляцоўку, возера і ручай.

— Чаго добрага, гэтак да самага неба дойдзем,—пажартаваў Манг.

— На неба нам ня трэба, — сказаў Тойдо, — а вось там у лагчыне нешта расьце.

Сапраўды, у маленькай лагчыне, схаваўшыся ад паўночнага і заходняга вятру, рос хмызьняк і некалькі крывых дрэў.

Мужчыны зараз-жа ўзяліся за працу, але нават і яны час-ад-часу спыняліся, каб палюбавацца вялікасным і прыгожым малюнкам.

Далёка на захад распасьцёрся акіян і так блішчэў на сонцы, аж у вочы калола. Бліжэй да берагу было раскідана безьліч астраўкоў і скал. Голыя і чорныя, яны вызначаліся на бліскучай вадзе, нібы сьпіны жывёл-волатаў. Часам зусім здавалася, нібы яны плаваюць.

— А дзе-ж наша стаянка?—пачалі яны шукаць свой прытулак. Але адсюль яго нельга было ўбачыць, бо ён быў вельмі блізка ад берагу.

На ўсход горы ўздымаліся прыступкамі, нібы вялічэзныя сходні, і канчаліся белымі сьнегавымі верхавінамі. Але нідзе аніякага сьледу прысутнасьці чалавека!..

Затым усе яны былі асабліва зацікаўлены, калі заўважылі недалёка ад берагу човен, у якім стаяў адзін чалавек. У нашых сяброў вочы былі вельмі вострыя, і яны адразу пазналі Нгара па яго птушынай вопратцы.

— Чаго ён тутака швэндаецца?—трывожна сказаў Манг.

— Непажаданы сусед,—сказаў і Кос:—А што мы будзем рабіць, калі ён знойдзе наш добры куток і прычэпіцца да нас? Гвалтам гнаць, ці што?

— А чаго на яго глядзець?—сурова адказаў Тойдо.—Калі трэба будзе, дык і прагонім.

Тымчасам насеклі і наламалі гальля. Заставалася толькі даставіць яго на месца.

— Вось гэта работа, дык куды цікавей!—весела заскакаў Манг і, набраўшы ў бярэмя, падбег да краю і кінуў уніз.

А праз некалькі хвілін весела заскагаталі і жанчыны з дзецьмі, калі на іх галаву паляцела гальлё.

Такім чынам і апошняя іхняя патрэба, апал, таксама была забясьпечана на далейшы час.

## V

**Мангава падарожжа.—Зялёны востраў.—Подласьць Нгара.—Бура.—Гудок.—Чалавек у моры.—„Людаед“ і „вышэйшая істота“.**

Цяпер ужо Мангу зручней было рабіць свае экскурсіі. Ён мог сабе спакойна вандраваць, ведаючы, што сваіх ён заўсёды знойдзе на месцы. Апрача гэтага, ён лягчэй адчуваў сябе і затым, што яму ня рупіла, — што і як з яго раднёй. Часта ён адлучаўся на некалькі дзён, і бацькі прызвычаіліся да гэтага і не пярэчылі.

У галаве Манга ўсё сядзела думка, як-бы паглядзець бліжэй на таемных белых людзей, пабываць таксама там, дзе яны жывуць, убачыць іхныя розныя цуды. Але праяжджалі яны вельмі рэдка, а яшчэ радзей можна было да іх наблізіцца. Пакуль пад‘едзеш,—карабель ужо далёка. Трэба было чакаць такога выпадку, каб акурат трапіць на яго, але калі гэта здараецца.

Ды і наогул такая сустрэча нічога асаблівага не давала. Паглядзіш знадворку на карабель, часам адтуль кінуць табе што-небудзь—і больш нічога. Нават не пасьпееш добра разгледзець людзей. Не! Трэба пашукаць, дзе яны жывуць. А дзеля гэтага, трэба ад‘ехаць далёка, туды, на поўнач, куды ідуць і адкуль прыходзяць караблі.

І ён сказаў бацьком, што хоча праехацца далей, каб паглядзець, як жывуць белыя людзі.

— Навошта табе? Ці варта? — пачалі адмаўляць бацькі, асабліва маці:—Гэта-ж далёка, на другім канцы сьвету. Ты не даедзеш, загінеш. Ды і яны могуць загубіць цябе.

— Вы-ж бачылі самі, што яны нічога дрэннага нам ня робяць,—настайваў Манг,—а што далёка, дык я паеду столькі, колькі можна будзе. Калі ўбачу, што нельга даехаць, тады магу і вярнуцца.

Супроць такой пастаноўкі пытаньня і пярэчыць ня было чаго. Чаму хлопцу не праехацца? Усё роўна яны валэндаюцца па мору ўзад і ўперад.

— Толькі ты сьцеражыся, каб яны цябе не зачаравалі,— параіла на разьвітаньні маці.

Падарожжа для іх было такой звычайнай справай, што ніякай падрыхтоўкі не рабілася. Манг выехаў таксама проста, як і заўсёды. Трэба яшчэ памятаць, што калі гутарка ідзе аб падарожжы, дык заўсёды маецца на ўвазе дарога між скал-астравоў, па каналах-калідорах, куды хвалі не дасягаюць. Аб паездцы на такіх чаўнох па акіяну ніхто з іх нават і не падумаў-бы. А тутака якраз такіх каналаў і было досыць. Вось чаму падарожжа Манга і не зьяўлялася чымсь нязвычайным.

Зразумела, Манг ня меў аніякага паняцьця аб адлегласьці, якую яму трэба было-б праехаць, каб убачыць, „як жывуць белыя“. Да бліжэйшага значнага гораду, Вальпарайзо, было 2000 кілёмэтраў, а каб даехаць да якога-небудзь пасёлка, таксама трэба было праехаць кілёмэтраў 500. У сваім маленькім чаўне, кіруючы першабытным вяслом, яму патрэбен быў-бы месяц, каб праехаць толькі 500 кілёмэтраў, ня кажучы ўжо аб тым, што па дарозе можна было чакаць розных перашкод:

ці адсутнасьць ціхіх каналаў, ці бура, ці адсутнасьць ежы, вады і г. д.

Усяго гэтага Манг ня ведаў. Ён думаў, што прыедзе праз некалькі дзён: паглядзіць, падзівіцца і вернецца сабе спакойна дадому.

Першы дзень прайшоў, як звычайна. Тыя самыя скалы, вуліцы, тыя самыя птушкі. Спыняцца яму ў гэты дзень амаль ня прыходзілася, бо ён меў з сабой запас ежы і вады. Пераначаваў у лодцы пад аховай скалы. На другі дзень ужо часьцей прыходзілася спыняцца. Асабліва цяжкая справа была з вадой. Многа меці яе ён ня мог, бо ня было адпаведнага начыньня. Нязграбны гаршчок, хоць і завязаны, усё-ж такі выплёхваўся ад калыханьня чаўна. А на скалах і маленькіх астраўкох вады ня было. Трэба было пад'яжджаць да галоўнага берагу ды шукаць, дзе падае зьверху вада. А каб знайсьці такое месца, часам трэба было значна ўхіляцца ўбок. Пры такіх умовах ён пасунуўся наперад за ўвесь дзень можа кілёмэтраў на 10, хоць наогул праехаў значна болей.

Заставалася яшчэ гадзіны са тры да захаду сонца, калі ён выбраўся з-за скал і апынуўся ў шырокім адкрытым прасторы. Замест высокіх скал тутака былі раскіданы нізенькія, роўныя астравы, пакрытыя нават травою. А травы Манг і ня памятае, калі бачыў.

Ён абраў лепшы востраў і рашыў тутака спыніцца нанач.

Аднак-жа гэтае прыгожае месца мела і свае нявыгоды: яно ўсё было ўсеяна рыфамі (падводнымі каменьнямі), якія то вытыркаліся з-пад вады, то хаваліся пад вадой ля самай паверхні. Нават лёгкаму мангаваму чаўну цяжка было прабрацца між гэтых рыфаў.

Нарэшце ён высадзіўся на бераг, падцягнуў лодку і пайшоў агледаць востраў. Усе свае прылады і маржовую скуру

ён пакінуў у чаўне. Толькі на плячох была штодзенная вопратка—кароткая накідка з коцікавай скуры. Прыемна было прайсьціся па мяккай траве, цікавы былі і кветкі; птушкі таксама былі незнаёмыя, маленькія, і сьпявалі яны нек прыгожа, зусім ня так, як усе гэтыя чайкі, качкі, альбатросы і іншыя марскія, рыбаедныя птушкі, ад чыіх крыкаў толькі галава трашчэла.

Далей, ля ўзвышша, відаць быў нават гай. Манг накіраваўся туды. На наш погляд гэта быў-бы вельмі мізэрны гай, але Манг і такому быў рады. У іх старонцы былі толькі рэдкія скурчаныя дрэвы, якія з вялікім высілкам чапляліся за голы камень, а тутака яны былі прыгожыя, ветлівыя.

Ён прайшоў гай, узьлез на горку і сеў. Вечар выдаўся такі добры, які рэдка бывае ў гэтым краі. Мора бадай не варушылася; на небе ані хмаркі; сонца паволі апускалася ў ваду. А ззаду, як заўсёды, высіліся сьнегавыя горы, і ў адным месцы ледавік спускаўся да самай вады. Ён, здаецца, быў зусім блізка, вось за тэй скалой, а сапраўды да яго было кілёмэтраў 50.

Манг сядзеў, адпачываў і задумённа любаваўся прыгожасьцю прыроды.

Але што гэта там такое? Здаецца, чалавек у чаўне капошыцца ля берагу! І якраз ля мангавага чаўна. Вось ён ад'яжджае і... цягне за сабой другі човен, мангавы!

Гэта-ж Нгара, будзь ён пракляты! Па гэтай паганай птушынай вопратцы відаць.

Зароў Манг не сваім голасам, сьціснуў кулакі і зубы і пабег, што моцы, да берагу.

— Стой! Нгара! Стой!—крычаў ён, як няпрытомны.

Але кану няўхільна адсуваліся. Пакуль Манг падбег да вады, Нгара ўжо быў на такой адлегласьці. што яму ня было чаго баяцца. Нават прыпыніўся, каб пазьдзеквацца.

— Нгара! Стой! — крычаў засопшыся Манг: — Гэта табе так ня пройдзе! Калі ня я, дык мой бацька і Кос цябе заб'юць. Бяры, калі хочаш, маржовую скуру, але кану пакінь.

— Ты мне аддаеш скуру тады, калі я яе ўжо ўзяў, — насьмешліва адказаў Нгара, — а кану я лепш пакіну ў моры. Тады, прынамсі, ты ня будзеш мне больш сустракацца на дарозе.

І ён паплыў далей.

— Пачакай! Нгара!—ізноў пачаў Манг:—Вазьмі сабе і ўсе іншыя мае рэчы. Толькі адну кану пакінь.

— Ха-ха-ха!—зарагатаў той:—Дурань ты! Дык я-ж ужо і без цябе ўзяў усё гэта. Ну, жадаю табе ўсяго лепшага на новым месцы. Жыві сабе тутака шчасьліва.

І ён хутка паехаў далей. Дарэмна Манг крычаў, трос кулакамі, пагражаў, нават прасіўся. Чаўны адплывалі ўсё далей і далей і праз некалькі хвілін зьніклі ў змроку. Схавалася і сонца.

Манг застаўся адзін на бязьлюдным беразе, бяз жаднай прылады ў руцэ. З роспачы паваліўся на зямлю, пачаў біцца і раўсьці, рваць на сабе валасы. Потым прыпадак прайшоў; Манг сеў, супакоіўся і так прасядзеў на месцы ўсю ноч, нібы няпрытомны. Паветра было цёплае, вада пяшчотна плюскатала ля ног, з-за гор паказаўся маладзік; так ціха і мірна было навакол, што нават ніхто ня мог-бы сабе ўявіць усю тую трагэдыю, якая адбывалася ў гэты момант.

Першыя праменьні сонца вярнулі Мангу бадзёрасьць, ён выпрастаўся, страсануўся, азірнуўся навакол. Усё было нават лепей, чымся там на бацькаўшчыне. Толькі кану ня было. Але ад гэтага да сьмерці яшчэ далёка. Ён яшчэ пасьпее сам сабе пашыць кану, тым болей, што і дрэвы тутака ёсьць. Але-ж затое і памсьціцца ён тады гэтаму Нгару!

Пры гэтай думцы ён і зусім забыўся аб небясьпецы. Хутчэй узяцца за работу, колькі-б часу гэта ні патрабавала! Але ў руках ён ня меў нічога; нават складанчык застаўся ў чаўне. Ну, што-ж, прыдзецца як-небудзь іначай. Яго бацькі і ён сам раней абыходзіліся і без нажа.

Ён зараз-жа назьбіраў на беразе шмат розных сухіх чарапашак і пайшоў да гаю. Абраў там адпаведнае дрэва і пачаў калупаць яго ля кораню. Каб чарапашкі былі вастрэйшымі, ён разьбіваў іх на часткі. Дзеля таго, што дрэва было таўшчынёю толькі з руку, ён досыць хутка падрэзаў яго, а потым зламаў. Праз некалькі гадзін ён такім чынам „нарубаў" сем жардзін: адну пад спод лодкі, а шэсьць для бакоў.

Тут толькі ён прыпомніў, што да гэтага часу нічога ня еў і ня піў. Падышоў да берагу, налавіў маленькіх ракоў і зьеў іх сырымі. Але ня было вады напіцца. Каб ня траціць часу на шуканьне, ён рашыў пацярпець і зноў узяўся за працу.

Але апрацаваць жардзіны было цяжэй, чымся сьсекчы. Ламаныя канцы нельга было так пакінуць; трэба было завастрыць іх так, каб можна было ўсе сем канцоў зьвязаць у адзін жмут. Тут ужо, апрача чарапашак, ён пусьціў у ход вострыя каменьчыкі, якія таксама прышлося разьбіваць на кавалачкі. Значна ён дапамог сабе яшчэ тым, што здагадаўся ўсадзіць канцы ў шчыліны між скал і круціць іх там.

Ен так захапіўся сваёй працай, ад якой залежала яго жыцьцё, што нават ня прымеціў, як надышоў вечар. Тады толькі ён адчуў, як ён хоча есьці, асабліва-ж піць. Але было ўжо позна шукаць, і ён прытуліўся да дрэва нанач. Цяжкая праца і папярэдняя бяссонная ноч дапамаглі яму моцна заснуць і не адчуваць голаду і смагі.

Назаўтра ён ізноў праглынуў некалькі марскіх жывёлін і зноў пачаў працаваць, але к поўдню адчуў, што больш ня

можа вытрымаць без вады. Трэба было ісьці шукаць яе. Але ці знойдзеш на гэтым нізенькім востраве?

Тут ён заўважыў, што на захадзе зьбіраюцца хмары і вецер узмацніўся.

— Пачакаю лепш дажджу, — сказаў ён сам сабе і зноў узяўся за работу.

Дождж прышоў неўзабаўку, але такі, што Манг лепш згадзіўся-б перацярпець смагу, чымся гэтую буру. Пачынаючы з поўдня, настала шэрая ноч, так што за некалькі крокаў нічога ня было відаць. Вялічэзныя хвалі, ня маючы ў гэтым месцы перашкоды, свабодна каціліся сюды з акіяну, нібы праз браму. Яны пагражалі заліць і той востраў, дзе быў Манг, — але наперадзе стаялі на варце рыфы, якія прымалі на сябе першы ўдар і грудзьмі разьбівалі хвалі. Затое-ж і злаваліся яны! Такое пекла ўтварылася там між рыфаў, што жудасна было слухаць.

Манг сядзеў пад дрэвам, накінуўшы на галаву сваю скуру, але і пры гэтым тросься ад холаду. Хвіліна здавалася гадзінай, а такія хвіліны ішлі і ішлі без канца. Так прайшло, мусіць, гадзіны са тры.

І вось там, за рыфамі, пачуўся гудок парахода! Трывожны, прадсьмертны...

Манг зараз-ж ўскочыў і пабег да берагу. Вецер валіў яго з ног, салоныя хвалі пырскалі ў твар, але ён нічога не адчуваў. З цікавасьцю і жудасьцю ўгледжваўся ён у шэрую імглу, чакаючы, што вось-вось зьявіцца „кану белых“. Ён ведаў, што ёй цяпер павінна пагражаць небясьпека, але, з другога боку, быў няўпэўненым, ці могуць наогул загінуць такія магутныя кану-волаты. У кожным разе справа была вельмі цікавая.

Так ён прастаяў поўгадзіны, гадзіну, — нічога больш ня чуць і ня відаць, толькі хвалі равуць і дождж лье, як з вядра.

Але вось на белым грабяні паказалася нешта чорнае. Узьнялося, ізноў апусьцілася. Праз хвіліну ізноў паказалася, ужо бліжэй, і рушылася на бераг. Але сустрэчная хваля падхапіла і аднесла назад. Надышла новая хваля, ізноў узьняла і кінула на бераг, але і на гэты раз сустрэчная хваля адкінула назад.

Манг ужо ўбачыў, што гэта быў чалавек, які трымаўся за кавалак лодкі. Яго магло такім спосабам кідаць узад і ўперад без канца, або кінуць так, што ён разаб'ецца дашчэнту. Тады Манг падпільнаваў момант, калі хваля шуганула чалавека на бераг, кінуўся насустрэч і учапіўся за дошку, каб ня даць ёй адыйсьці назад. Зваротная хваля наляцела на яго, пагражаючы і яго таксама аднесьці ў мора, але ён нырнуў пад яе і такім чынам аслабіў напор, а потым адным мігам ухапіў чалавека і пабег да берагу.

Але чалавек чамусьці не выпушчаў з рук дошкі, чым значна перашкаджаў Мангу. У гэты момант новая хваля штырханула яго ў сьпіну. Ён кінуўся разам з ёю наперад і паваліўся на бераг, а на яго і чалавек з дошкай. Моцна ўдарыўся Манг, але нельга было думаць аб гэтым. Трэба было сьпяшацца прапаўзьці яшчэ крокі са два, каб не захапіла новая хваля і не аднесла назад. Ён паспрабаваў вырваць дошку з рук чалавека, але той так учапіўся, што адразу немагчыма было гэта зрабіць. Прышлося паўзьці разам з дошкай. І толькі на беразе, з вялікім высілкам, ледзь не паламаўшы пальцы пацярпеўшага, удалася вырваць дошку з закасьцянелых рук.

Тут толькі Манг убачыў, што гэта была маладая дзяўчына. Але яна была ў няпрытомнасьці, мо' няжывая, і Манг ня ведаў, што з ёю рабіць. У кожным разе ён узяў яе на рукі, аднёс пад дрэва і ахутаў у скуру. Нельга сказаць, каб ёй было вельмі добра: дождж ішоў без перапынку, скура ахоўвала

толькі частку цела, вада залівала ўсю дзяўчыну. Але больш Манг нічога ня мог зрабіць.

Ён прысеў побач накарачкі і з цікавасьцю наглядаў таемнага, нязвычайнага белага чалавека. Трэба сказаць праўду, што больш за ўсё яго зацікавілі ногі. Ён вельмі зьдзівіўся, што яны блакітнага колеру. Мокрыя тонкія панчохі так шчыльна абхіналі іх, што ня відаць было аніводнай зморшчкі. Таму Манг і падумаў, што гэта цела мае такі колер. Маленькія



**Манг мігам ухапіў чалавека.**

чорныя, бліскучыя пантоплі з вострымі насамі таксама былі цікавы. Манг нават дакранаўся да іх, каб пераканацца, што гэта такое.

Цёплая мяккая поўсьць тымчасам рабіла сваю справу: дзяўчына ўздрыганулася і нібы прастанала. Манг абрадаваўся

значыцца, жывая. Потым з горла яе вырваўся нібы ўздых, нібы вада; дзяўчына заварушылася, яшчэ мацней застагнала і пачала трасьціся, як у трасцы.

Манг і сам тросься ад холаду і вельмі шкадаваў, што няма сухога, цёплага прытулку.

Тады ён рашыў пашукаць, ці ня знойдзецца які-небудзь зручны куток. Бура і дождж ня спыняліся, але шэрань рабілася цямней: відаць, надыходзіў вечар. Манг хутка пабег да ўзвышшаў. Там далей відаць былі нават скалы. Ён бегаў узад і ўперад, заглядаў ва ўсе куткі, але нічога добрага не знаходзіў. І толькі варачаючыся назад, недалёка ад таго месца, дзе ён раней сядзеў, заўважыў ён больш-менш прытульны куток.

Гэта быў абрыў з невялікім паглыбленьнем у сярэдзіне, але-ж затое добра забаронены з мора ад ветру і дажджу. Дзякуючы таму, што дождж ішоў ад мора на ўскос, сухая мясьцінка яшчэ болей павялічвалася. Але ўсё-ж такі там не магло зьмясьціцца больш за аднаго чалавека.

Манг пабег, узяў дзяўчыну і перанёс яе ў гэты куток. Яна ўся дрыжала і часам казала нешта незразумелае. Тымчасам цямнела ўсё болей і болей. Паўстала пытаньне аб агні Але, як яго здабыць?

Калі Манг быў адзін і захапіўся майстраваньнем лодкі, ён згодзен быў лепш пацярпець, чымся ахвяраваць час на здабычу агню. А цяпер і самаму холадна, і непагадзь, і выратаваная дзяўчына на руках.

Ён пільна агледзеўся навакол. Абрыў ня быў голай скалой. Наверсе расьлі дрэвы, хмызьняк; вытыркаліся сухія карэньні, унізе было сухое лісьце, трава, сухія галінкі, — адным словам, умовы больш-менш спрыяючыя. Трэба толькі было высячы агонь.

І ён пачаў рыхтавацца. На карэньнях і гальлі ён знайшоў сухія нарасты-грыбы; яны маглі служыць трутам. Падрыхтаваў сушэйшага і танчэйшага гальля, травы, лісьця. Потым назьбіраў адпаведных каменьчыкаў і пачаў выбіваць іскры.

Але лягчэй усё гэта сказаць, чымся зрабіць. Колькі каменьчыкаў прышлося перапрабаваць і пашукаць, пакуль натрапіў на добры крамняк! А колькі часу прышлося пастукаць!

Так цягнуўся доўгі, нудны час. Дзяўчына стагнала, варушылася, трызьніла. Нават бура пачала сьціхаць. А Манг усё біўся над сваім агнём. Колькі разоў ён ужо хацеў кінуць гэтую справу, але ранейшае дасьведчаньне прывучыла яго да цярплівасьці.

Была ўжо позная ноч, калі, урэшце, запаліўся агонь. Затое-ж і радасьці колькі было! Адразу ўсё зьмянілася, ажыло. А дзяўчына дык зусім ачуняла, калі агонь пачаў грэць і сушыць яе.

Некаторы час яна пазірала навакол, нічога не разумеючы. Потым прыпаднялася, пачала прыглядацца да Манга і, уразумеўшы сваё становішча, дзіка ўскрыкнула, сплюшчыла вочы і зараз-жа ізноў паваліласа ў няпрытомнасьці.

А Манг сядзеў сабе на карачках ля вогнішча і весела ўсьміхаўся, здаволены тым, што яна ачуняла. Ён ня ведаў, чаму яна ізноў паваліласа; ён думаў, што яна яшчэ канчаткова не ачулілася, і цярпліва чакаў, пакуль яна прыдзе ў прытомнасьць.

Праз некалькі хвілін яна ізноў расплюшчыла вочы, ізноў убачыла яго, ускочыла і з жудасным крыкам забілася ў самы куток, працягнуўшы наперад рукі, нібы абараняючыся ад яго.

Манг усьміхнуўся ўсім тварам, заматаў галавой і залапатаў:

— Добра, добра! Ты ўжо здарова. Агонь добра.

А бедная дзяўчына тымчасам думала, што прышоў яе канец. Што, у лепшым выпадку, яе зараз-жа зарэжуць і зьядуць.

— О, лепш было-б утапіцца ў моры! — прастагнала яна паангельску.

Пачуўшы, што яна гаворыць, Манг ізноў заматаў галавой

— Добра, добра! Ты не загінула. Манг выратаваў цябе.

Дзяўчына скорчылася ў кутку, апусьціла галаву, засланіла рукамі свой твар і пачала чакаць сьмерці.

Але Манг ня рухаўся. Ён толькі паправіў вогнішча, а потым ізноў утаропіў вочы на дзяўчыну.

„Дык вось якія яны!“ —думаў ён, аглядаючы ўсю яе постаць, адзеньне.

Яна нагадвала яму прыгожую бездапаможную птушку і выклікала ў ім спачуваньне. Яму прыемна было адчуваць, што ён зьяўляецца збаўцам гэтай далікатнай „вышэйшай істоты“. Ён лічыў за гонар сядзець побач з прадстаўніком тых людзей, якіх блізка яны ня бачылі і якія здаваліся ім нейкімі багамі.

А „вышэйшая істота“ тымчасам сядзела скамянелая ад жудасьці і чакала сьмерці.

— Хоць-бы хутчэй усё гэта скончылася!—прастагнала яна.

Яна ўсё чакала, калі прыдуць іншыя дзікуны. Яна ўяўляла сабе, як зьбярэцца шмат дзікуноў, страшэнных, узброеных, як пачнуць яны скакаць вакол яе і агню, а потым... потым...

Тут яна ня вытрымала і заплакала горкімі сьлязьмі. Плечы яе трасьліся ад рыданьня, жаласны енк вырываўся з грудзей.

Манг зьдзівіўся і занепакоіўся. Такія сьлёзы, такі адчай узварушылі яго. Яму было так шкода яе, што ён мімаволі пасунуўся да яе і пачаў супакойваць, як умеў.

— Ня бойся! Манг усё зробіць. І спажывы табе знойдзе і сам кану пашые, каб выехаць адсюль.

Убачыўшы, што ён пасуваецца да яе, дзяўчына падумала, што канец ужо прышоў. Яна ўскрыкнула нечалавечым голасам, ускочыла і выбегла з-пад скалы ў цемру.

Манг застаўся сядзець з разьзяўленым ротам. Што з ёю? Куды яна? Чаму? Здаецца, нібы яна яго баіцца, але-ж ён нічога дрэннага ёй не зрабіў і ня думае рабіць. І што цяперака з ёю рабіць? Лавіць, ці што?

А яна тымчасам адбеглася на некалькі крокаў, але, убачыўшы, што ён сядзіць сабе спакойна і ня гоніцца,—спынілася. Тады ёй прышлі да галавы цьвярозыя думкі. Куды яна дзенецца? Калі ён захоча, дык адразу яе зловіць. Але-ж да гэтага часу ў ім ня відаць было аніякіх нядобрых намераў. Ён выратаваў яе з вады, перанёс сюды, абагрэў і асушыў, нават у сваю скуру апрануў, а сам сядзіць на холадзе толькі ў сваім поясе, або хвартуху.

Не! Відаць, ен ня думае скрыўдзіць яе. Можа на яе шчасьце трапіўся дзікун з чалавечай душой. Кажуць, што і сярод дзікуноў часам сустракаюцца людзі. Можа нават ён яшчэ абароніць яе ад сваіх сяброў, што прыдуць? Хай будзе, што будзе,—усё роўна ёй некуды дзецца.

І яна вярнулася на сваё месца.

Манг ветліва ўсьміхнуўся і зноў загаварыў:

— Манг ня скрыўдзіць белую птушку. Манг мсьціцца толькі сваім ворагам, такім, як Нгара.

Дзяўчына зусім супакоілася, нэрвовая ўзрушанасьць прайшла, а разам з тым вярнулася недамаганьне і вялікая зморанасьць. Некаторы час яна трымалася, каб не заснуць (хто яго ведае, што можа быць?), але хутка галава апусьцілася, вочы сплюшчыліся, і яна сама не заўважыла, як ужо спала моцным сном.

Было ўжо каля поўначы. Бура заціхла, але акіян шумеў амаль як і раней. Таксама разьбіваліся і гулі хвалі між рыфаў, таксама налятаталі яны на бераг.

Манг падкінуў у вагонь корч і прымасьціўся спаць. Толькі галаву і плечы ён мог зьмясьціць пад абрывам, рэштка засталася пад небам.

Некалькі разоў холад прымушаў яго ўставаць і падпраўляць агонь, але ня было чаго і падкладваць. Агонь ледзь тлеўся і ніколькі не абаграваў Манга.

Так правялі першую ноч „людаед“ і „вышэйшая істота“

---

## VI

**На другі дзень.—Мярцьвяк.—Манг у капітанскім адзеньні — Пабудова лодкі.—Ад'езд.—Параход прайшоў міма. — Катастрофа.—Перад тварам сьмерці.—Пакінутая стаянка.**

Манг прачнуўся рана і спачатку нават зьдзівіўся, убачыўшы новага чалавека. Хоць ён зараз-жа і прыпомніў усё, што адбылося ўчора, але ўсё-ж такі неяк дзіўна было і ня верылася, што гэта праўда. Вельмі ўжо нязвычайная гісторыя.

Але довад быў перад вачыма. Дзяўчына спала моцным сном на яго скуры, падагнуўшы пад сябе свае „блакітныя" ногі. Сьветлае адзеньне, сьветлыя валасы, бялюткі, тонкі твар,—усё гэта пераконвала, што перад ім знаходзіцца сапраўды нязвычайная істота, блізка што боская. Праўда, даўно ўжо мінулі тыя часы, калі дзікуны лічылі белых за багоў, цяпер ужо наадварот—лічаць іх за чарцей. Але нашы фуіджынцы жывуць у такіх умовах, што ня мелі шчасьця, — або няшчасьця,—сустракацца з белымі і хоць ня лічылі іх за багоў, але павагу адчувал вялікую. Прынамсі тыя, каму не траплялася мець з белымі стасункаў.

І Мангу прыемна было даглядаць і ахоўваць пекную „белую птушку". Ён зараз-жа пабег шукаць ёй (зразумела, і сабе самому таксама) спажывы. Ён хутка налавіў сваіх звычайных чарапашак ды сьлімакоў і пайшоў быў назад. Але праз некалькі крокаў спыніўся, як укопаны: на вострым камені ля-

жаў чалавек у форме морскага афіцэра ці капітана. Мангу ня цяжка было здагадацца, што гэта з загінуўшага карабля. На гэты раз у яго нават мільганула думка ў тым сэнсе, што яму занадта ўжо будзе выхаванцаў.

Але падышоўшы бліжэй, ён адразу заўважыў, што чалавек мёртвы. Відаць, хвалі забілі яго аб скалы, бо чэрап быў прабіты і чарнеўся жудаснай, крывавай дзіркай.

Манг агледзеў яго, пакратаў, памацаў чорны мундзір з залатымі гузікамі і рознымі іншымі прычандаламі і тут-жа заўважыў на поясе дасканалы кінжал („корцік“). Гэта знаходка выклікала ў ім такую радасьць, што ў яго вырваўся крык задаваленьня.

Мігам выхапіў ён кінжал з ножан, павярцеў яго, пацмокаў, а потым захацеў узяць і ножны. А як яны былі прычэплены да пояса, то пачаў здымаць і пояс. Пасьля-ж гэтага яму прышла ў галаву вельмі разумная думка—зьняць і мундзір, бо голаму чалавеку ён будзе вельмі дарэчы.

Нарэшце, наш Манг апынуўся ў капітанскім мундзіры, хоць і бяз портак.

Які ён меў выгляд—уяўляйце сабе самі.

Падабраўшы сваё сьнеданьне, ён весела пайшоў „дадому“.

Дзяўчына тымчасам прачнулася. Азірнуўшыся навакол і прыпомніўшы ўчарашняе, яна сядзела з такім выглядам, нібы пыталася: што гэта—ці сон, ці сапраўднасьць? Што карабель загінуў, што човен, у якім яны ратаваліся, разьбіўся,—яна гэта добра ведала. Але потым яна, здаецца, трапіла ў рукі дзікуноў, а цяперака нікога няма, яна адна. Што гэта знача?

Тут яна ўбачыла, што да яе ідзе нейкае дзіўнае стварэньне ў мундзіры. Спачатку мільганула надзея, што гэта хтонебудзь з сваіх, што выратаваўся ад сьмерці, пацярпеўшы і

абшарпаны, але хутка прышлося пераканацца, што гэта ўчорашні дзікун.

Адкуль-жа-ж ён узяў убраньне? Значыцца забіў і абрабаваў каго-небудзь з каманды?! А цяпер ідзе яе чарод!



**Яна убачыла дзіўнае стварэньне ў мундзіры.**

І зноў яна закрычала ад жаху і зашылася ў куток...

А Манг падышоў, весела сьмяючыся, вылажыў сваю здабычу і лагодна сказаў:

— Вось, еж.

Потым здагадаўся, што яна дзівіцца на яго адзеньне, і дадаў:

— Там ваш чалавек, мёртвы.

Пры гэтым ён аднэй рукой паказаў на мундзір, а другую працягнуў у той бок, дзе быў мярцьвяк.

Дзяўчына ня ведала, што і думаць. Усё казала за тое, што гэты дзікун, прынамсі цяперака, ня думае рабіць ёй нічога дрэннага. Што-ж адбылося там, куды ён паказвае?

Нарэшце, яна набралася адвагі, рашуча падышла да яго і пачала паказваць на мігі, каб ён павёў яе туды. Манг зразумеў і пайшоў.

Калі яны падышлі да берагу, яна ўсё зразумела. Жаль абхапіў яе сэрца, сьлезы паліліся з вачэй. Некалькі хвілін прастаяла яна, уяўляючы сабе увесь жудасны малюнак.

„Хто ведае? Можа, іх лёс лепшы за мой. Для іх, прынамсі, ужо ўсё скончана, а я...“—думала яна праз сьлёзы.

Няпрыемна ёй яшчэ было, што чалавек ляжыць, як падла. Трэба было-б пахаваць яго. Але як гэта зрабіць? Тады яна пачала паказваць Мангу, каб спусьціць мерцьвяка ў мора. Манг адцягнуў яго ў ваду, і той ціха закалыхаўся на хвалях.

Дзяўчына адвярнулася і хутка пайшла назад, нібы ўцякаючы ад гэтага месца. Уражаньне было вельмі цяжкае, але разам з тым яна адчувала, што зусім перастала баяцца дзікуна. Яна пераканалася, што ва ўсіх адносінах паводзіны яго былі, як і кожнага добрага чалавека. Гэта быў ня зьвер які-небудзь, а самы звычайны слуга.

Дзівіла толькі яе, чаго ён тутака адзін? Няўжо-ж ён апынуўся таксама, як і яна? Значыцца, на гэтым востраве ім абодвым прыдзецца жыць можа шмат гадоў? А можа і да самай сьмерці.

Але пакуль што аб гэтым лепш ня думаць.

Ангельцы, як вядома, народ энэргічны, трывалы. Нават жанчыны, асабліва багатыя, з маленства гартуюць сябе спор-

там. І да нашай дзяўчыны хутка вярнуліся бадзёрасьць і энэргія. І адзнакай гэтага зьявілася тое, што яна адразу адчула, што страшэнна хоча есьці.

Але калі Манг прапанаваў ёй сваіх сьлімакоў, дык яна прышла ў жах, амаль не такі самы, як учора ад выгляду дзікуна. Манг і падсмажыў іх у попеле і сам пачаў есьці, выразна паказваючы, што вельмі смачна, але яна нават адвярнулася, каб ня бачыць.

Тады яна паказала, што хоча піць. Манг зараз-жа ўскочыў, пабег да мора, знайшоў вялікую чарапашыну і пабег з ёй шукаць вады. Добра яшчэ, што нядаўна быў дождж і знайсьці ваду было лёгка.

Нельга сказаць, каб прыемна было ёй піць ваду з брудных рук дзікуна, з нейкай чарапашыны, з нейкай лужыны, але нічога ня зробіш, трэба было прывыкаць.

Манг здагадаўся, што „белая птушка“ стравы яго ня любіць. Тады ён захацеў пачаставаць яе рыбай. Але гэтая справа была больш складаная. Ня маючы ніякіх прыладаў, трэба было знайсьці асабліва зручнае месца, дзе можна было-б загнаць рыбу ў куток, каб злавіць рукамі. А гэта не заўсёды здараецца. На ўсякі выпадак ён ізноў пабег да берагу.

Ён знайшоў больш-менш зручнае месца, але не такое вузкае, каб можна было спадзявацца злавіць рукамі. Тады ён зьняў свой... свае... як бы тут сказаць, ну, штаны, якія лепш было-б назваць поясам, альбо пояс, які замяшчаў яму штаны. З гэтай прыладай яму ўдалася налавіць маленькіх рыбак. О, каб толькі ведала „белая птушка“, якім спосабам Манг ловіць ёй рыбу!

Гэтай страве дзяўчына вельмі абрадавалася і нават сама пачала пячы ў попеле.

Толькі крывілася, што рыба была нячышчаная, у попеле, бяз солі ды бяз хлеба.

А Манг сядзеў перад ёй на карачках у сваім капітанскім адзеньні і цешыўся, што яна есьць.

О рыба, добра, смачна,—паддаваў ён духу.

Як ні сумна было няшчаснай дзяўчыне, але кожны раз, зірнуўшы на гэтую постаць, яна не магла ўстрымаць усьмешкі, а цяперака дык і зусім расьсьмяялася. А задаволены Манг зарагатаў яшчэ болей.

Пасьля сьнеданьня Манг узяўся за сваю працу. Ён паказаў дзяўчыне свае жэрдкі і пачаў тлумачыць, што робіць кану, на якой яны абодвы паплывуць. Ён падышоў да вады, паказаў, як соваецца па вадзе човен, паказаў на дзяўчыну і махнуў рукой на мора, гаворачы на сваёй мове: „далёка, далёка“!

Прамова была вельмі выразная і зразумелая, толькі дзяўчына ніяк не магла ўявіць, які човен выйдзе з такіх жэрдак. Прыходзілася чакаць, што будзе.

Цяперака работа пайшла іначай: Манг меў добры кінжал, які мог служыць і сякерай, і нажом, і гэблям, і шылам. Была прыцягнута і дошка ад разьбітай лодкі. Манг ізноў захапіўся працай і забыўся аб голадзе.

Але паненка была галодная. Некалькі рыбак ды дажджавая вада не маглі ёй замяніць какавы, булкі, масла і іншых страў, да якіх яна прызвычаілася. Урэшце, яна ня вытрымала, падышла да Манга і, дакрануўшыся пальцамі да свайго рота, паказала, што хоча есьці.

Манг зараз-жа пакінуў работу і пайшоў клапаціцца аб абедзе. На гэты раз яму болей пашанцавала, бо акурат быў час адліву. Вада адышла ад берагу і пакінула на дне шмат жывёлак. Нават, у адным месцы засталася лужына, дзе была знойдзена досыць добрая рыба. Сама паненка захацела пры-

няць удзел у зборы ўраджаю, але спалохалася ракаў, хоць і лічыла іх за самую лепшую страву з усяго таго, што тутака было.

На гэты раз яна прыняла ўдзел у гатаваньні абеду. Для сябе самой яна і пачысьціла рыбу і памыла. А Манг пхаў, як яна ёсьць, выплёўваючы непатрэбнае.

Дзяўчыне вельмі брыдка было глядзець на свайго суседа, як ён еў усялякую погань, пэцкаў свой капітанскі мундзір. Яна адварачвалася ад яго, старалася не глядзець і чакала, каб ён хутчэй пайшоў на працу ды пакінуў яе адну. Часам ёй прыходзіла ў галаву думка: што сказалі-б яе знаёмыя, каб убачылі яе за „таварыскім“ абедам з дзікуном-людаедам?

Манг пайшоў працаваць, а паненка то адпачывала на мяккай коцікавай скуры, то шпацыравала сабе па востраве. Такім чынам ішлі дні за днямі. Манг біўся над сваім чоўнам, а паненка з нецярплівасьцю чакала, пакуль ён скончыць, ды нудзілася. Яна ніяк не магла прызвычаіцца да такой ежы, адчувала сябе дрэнна, схудала. Разам з гэтым прайшла і бадзёрасьць. Ёй пачало здавацца, што сядзіць яна тутака цэлыя гады і што, мусіць, ніколі ня выберацца адсюль.

Манг-жа, наадварот, быў вясёлы, энэргічны. Ён стараўся дагаджаць ёй на кожным кроку, абнадзейваў яе, што скора паедуць.

Але куды паедуць? Гэтага яны не маглі растлумачыць адзін аднаму і нават самім сабе. Дзяўчыне здавалася, што калі толькі яны ад'едуць ад гэтага праклятага вострава, дык сустрэнуць які-небудзь карабель. А Манг і сам сабе не ўяўляў, што ён будзе рабіць з ёй. Ведаў толькі, што трэба вярнуцца дадому, адамсьціць Нгара ды адабраць лодку, бо гэта, якую ён робіць, будзе значна горшая. А потым ужо ізноў

можна будзе думаць, як даехаць да белых, асабліва, калі ён павязе да іх гэтую дзяўчыну.

Але справа была вельмі марудная. Як-ні-як зьвязаць жэрдкі ён пасьпеў праз два дні, але засталося самае галоўнае: абшыць іх. А гэта была зусім іншая праца. Тоўстых дрэў ня было, прыходзілася сшываць маленькія кавалачкі кары, а яны былі тонкія, нямоцныя, разрываліся. Прыходзілася складваць у некалькі столак, латаць дзіркі, а потым латаць латы і г. д.

Дзяўчына ўжо ўразумела, якім чынам Манг хоча зрабіць човен, але, прыгледзеўшыся да гэткай працы, яна зусім страціла надзею, што з гэтага што-небудзь выйдзе.

Манг-жа не сумаваў, а ўсё ляпіў ды ляпіў кавалачкі. Тады і паненка пажадала дапамагчы. Манг вельмі абрадваўся.

— Добра, добра. Цяпер будзе хутка. Белая птушка,— добрая дзяўчына,—казаў ён.

Але зарана Манг парадаваўся: у „белай птушкі“ нічога ня выходзіла.

Аднак яна добра ведала, што ад гэтага таксама залежыла і яе жыцьцё і, сьцяўшы зубы, працавала далей. Праз некаторы час выявілася, што ў такой справе нават паненскія рукі могуць прынесьці карысьць.

Некалькі разоў ёй здавалася, што ўся гэта праца дарэмная, што нічога ня выйдзе, але кожны раз упэўнены выгляд Манга надаваў надзею.

Так цягнулася цэлых тры тыдні. Некалькі разоў зьмянялася надвор‘е. Ізноў прышлося перажыць і вецер, і дождж, і буру. Сьветлая дзяўчыніна сукенка прыняла дзікунскі выгляд. Блакітныя панчошкі парваліся (пасьля чаго Манг убачыў, што гэта быў ня колер скуры). Але здароўе яе захавалася, хоць яна і перайшла з панскага на дзікунскае жыцьцё.

Вызначаліся і адносіны іх між сабой. Паненка даўно ўжо забылася, што яна знаходзіцца „ў лапах людаеда“. Для яе гэта быў звычайны жоўтаскуры слуга, якіх нямала ёсьць і ў іх у Лёндоне. Яе ўжо нікольві ня дзівіла, што ён прыслугоўвае ёй, даглядае, ахоўвае. Як-жа-ж іначай можа быць? І яна распараджалася ім, як слугой. Нават некалькі разоў ужо злавала ня яго, крычала, раздражнялася, што ён ці нязграбны, ці дурны.

Манг нічога гэтага не разумеў, нават знаходзіў цікавым. Ён так яе паважаў, што яму ніколі і ў думку ня прыходзіла раўнацца з ёй. Ён быў задаволены ўжо адным тым, што вядзе блізкае знаёмства з такой асобай, якіх яго аднапляменьнікі, дый то ня ўсе, маглі бачыць толькі здалёку.

Нарэшце прышоў час, калі лодка была спушчана на ваду. Праўда, яна была ненадзейная, нязграбная,. але Манг зьзяў ад шчасьця, гледзячы на сваю працу.

Недаверліва ўвайшла ў човен паненка. Быў момант, калі яна гатова была лепш застацца тутака і чакаць ратунку, чымся рызыкаваць ехаць на гэтай няшчаснай прыладзе. Але ніякага іншага выхаду ня было.

Нацярпелася яна страху, пакуль выехалі з рыфаў. Кожны момант ёй здавалася, што вось-вось човен перакуліцца або распаўзецца. Супакоілася толькі тады, калі выехалі ў спакойныя каналы між высокіх скал.

Першую ноч прышлося пераначаваць у чоўне пад высокай скалой. Для дзяўчыны гэта было пакутай.

Назаўтрае паехалі далей. А поўдні неспадзявана пачуўся... звон! Сапраўдны звон, якім азначаецца час („склянкі“) на караблёх. Пачуўся ён па-за скалою, направа. Значыцца, там ішоў карабель!

Замітусілася паненка, захвалявалася.

— Туды! Туды!—пачала яна крычаць і паказваць рукою.

Манг і сам зразумеў, паехаў у абход. Але адразу стала відаць, што справа дарэмная. Лодка паўзла надта павольна, а скала, як на злосьць, была доўгая.

Дзяўчына ўскаквала, пагражаючы перавярнуць човен, ламала рукі, плакала, крычала пасвойму: „хутчэй! хутчэй!“

Калі аб'ехалі скалу, дык убачылі далёка-далёка чорную кропку і дымок... А дзяўчына з жалосным стогнам павалілася на спод чоўна...

Але няма ліха без дабра. Паваліўшыся на спод, яна трапіла ў халодную ваду і адразу апамяталася. На жаль, на гэтым дабро і скончылася. Паўстала новая бяда, нават большая за тую, што параход прайшоў міма.

Аказваецца, калі Манг сьпяшаўся да карабля, ён так напружваўся, так упінаўся ў лодку, што яна ня вытрымала і распаўзлася. Манг кінуўся затыкаць дзірку, але ад гэтага шоў яшчэ болей пачаў разыходзіцца.

Настаў крытычны момант. Але Манг не зьбянтэжыўся. Хутка зірнуў на сьцяну, убачыў за некалькі крокаў невялікую прыступку і накіраваў туды човен. Падплыў ён туды ўжо поўны вады. Манг выскачыў на скалу і выцягнуў дзяўчыну, якая была ўжо па пояс у вадзе. Ён нават не забыўся затрымаць і човен каторы хоць і быў поўны да берагоў, але трымаўся на вадзе.

Такім чынам нашы падарожнікі апынуліся яшчэ на горшым востраве, чымся раней. Яны стаялі на вузкім выступе скалы, дзе нават сесьці было цяжка, а за сьпіной уздымалася сьцяна.

А навакол было так прыгожа і спакойна. Мора яскравілася пад паўднёвым сонцам, аніводнай хвалі ня было на ўсім

абшары. Чорныя скалы, нібы нейкі натоўп, стаялі сур'ёзна і спакойна. Толькі птушкі спрачаліся там наверсе.

Дзяўчына стаяла нярухомая і глядзела наперад так, нібы ёй было ўсё роўна, чым-бы гэта ні скончылася.

Затое Манг напружана думаў. Спачатку ён агледзеў скалы, каб знайсьці пакуль што лепшае месца. Але нічога добрага не заўважыў. Потым ён уважліва, бліскучым узрокам, пачаў углядацца наперад.

Там, кілёмэтраў за восем, быў іх дом. Ён нават бачыў уваход у затоку. Тамака яго радня, там кану. Так мала заставалася ехаць, і вось гэтае няшчасьце! Няўжо-ж прыдзецца загінуць пад бокам ля сваіх? Нават выцягнуць кану няма куды, каб хоць абыяк паправіць яе.

Застаецца толькі адно—плысьці туды.

І ён пачаў тлумачыць дзяўчыне, што хоча плысьці туды. Ён паказаў рукой на човен і працягнуў руку туды, што, значыцца, там ёсьць лодка. Потым паказаў, нібы ён сам плыве туды і, урэшце, вельмі шчыра і выразна стаў паказваць, што ён вернецца і возьме яе.

Дзяўчына ўразумела, але выдумка гэта ніколечкі не парадвала яе. Адкуль і якую лодку ён знойдзе? А калі ёсьць, ці даплыве ён? Лепш было-б загінуць разам. Усё-ж такі побач, хоць дзікун, але жывы чалавек.

Манг тымчасам зьняў свой мундзір і падперазаўся поясам з кінжалам. Потым бадзёра зясьмяяўся ёй, кінуўся ў ваду і хутка паплыў.

Крок за крокам, павольна, але бязупынна ён пасуваўся ўсё далей і далей. Вось толькі ледзь чарнеецца галава, вось і яна зьнікла ў бліскучым прасторы. А дзяўчына стаяла, сачыла і ўсё яшчэ не магла ўразумець, ці гэта к лепшаму, ці к горшаму.

Пацягнуліся для яе сьмяротныя гадзіны, бясконцыя, безнадзейныя. І сапраўды, якую надзею яна магла мець? Яна ня ведала, куды ён паплыў, што ён мае на ўвазе. Ня ведала, колькі часу магло прайсьці, пакуль ён вернецца, калі наогул вернецца. А надзеі на гэта вельмі мала: папершае—ён сам можа загінуць, падругое—можа не знайсьці ніякага чоўна, патрэцяе — можа знайсьці праз некалькі дзён, пачацвертае—можа і зусім ня вернецца. Ці можна спадзявацца на дзікуна?



А дзяўчына стаяла і сачыла.

Значыцца, трэба рыхтавацца да сьмерці. Як заўсёды бывае ў такіх выпадках, перад ёй прайшло ўсё яе жыцьцё. Бацька яе быў багаты ангельскі капіталісты. Паміж іншым, ён меў у Чылі вялікае прадпрыемства па здабыцьцю медзі. Жылі яны ў Лёндоне, але апошні год бацька быў прымушаны пражыць у Чылі па справах прадпрыемства. К гэтаму часу міс Грэт,—так звалася дзяўчына,—скончыла сваю адукацыю і захацела праехацца да бацькі, каб паглядзець сьвету.

І вось, заместа гэтага, яна стаіць тутака адна, на голай скале і чакае сьмерці...

Так прайшоў дзень, падышоў вечар. Ужо некалькі разоў казала яна сама сабе, што трэба скончыць пакуту і самой кінуцца ў ваду, але ўсё адцягвала. Хоць у думцы яна не спадзявалася ні на што, але недзе глыбока ў сэрцы ўсё-ж такі трымалася надзея.

— А можа?.. Пачакаю яшчэ крыху, пакуль яшчэ можна.

Вось ужо і ноч. Аніводнага гуку навакол. Напружанае вуха прыслухоўвалася, лавіла нібы плёскат. Можа ён едзе? Не, нічога ня было...

А Манг усё плыў і плыў. Зморыцца, адпачне на сьпіне і зноў плыве. Добра яшчэ, што мора ціхае. Вось ужо і ўваход. Адзін зварот, другі—і перад ім жаданы куток, іх часовы дом.

Крыкнуў ён, каб даць знаць сваім. Рэха пакацілася між ціхіх стромкіх скал, але іншага адказу ня было. Ізноў крыкнуў—таксама нічога. Манг адразу адчуў, што ён захаладзеў і ня можа рухацца.

Напружыў апошнія сілы, увайшоў у сярэдзіну, азірнуўся—нічога няма! Нават „гаспадаркі“ на беразе няма: значыцца выехалі не часова, а назаўсёды.

Ледзь жывы выбраўся ён на знаёмую пляцоўку і паваліўся ня зямлю...

---

## VII

**Дома.—„Чорт!“—Па ахвяру.—Альпага.—Барацьба з птушыным царом.—Спуск на „парашуце“.—Урачыстае ахвяраваньне.—„Чорт“ ашукаў!..**

Жыцьцё абодвых сем‘яў пасьля ад‘езду Манга не зьмянілася. Жылі яны спакойна і шчасьліва, мелі ўсё, што толькі маглі жадаць гэтыя людзі. З цікавасьцю чакалі звароту Манга.

— Можа ён прывязе ад іх што-небудзь карыснае для нас?—казаў Тойдо.

— Хоць-бы сам вярнуўся, і гэтага досыць было-б,—адказвала маці.

Добрадушны Кос супакойваў:

— А што з ім можа здарыцца? Манг—хлапец спрытны. Кану добра зроблены.

Аднойчы Мгу з дачкой Тойдо „зьбіралі плады з дрэва“. Як заўсёды, седзячы ў чоўне, прыпаднялі галіну. Дзяўчынка падтрымлівала яе, а Мгу здымала ўраджай. Унізе адкрылася чыстае свабоднае месца, дзе відаць было дно, ды гулялі рыбкі

Дзяўчына наглядала за імі, цешылася. Раптам яна адхінулася і з жахам закрычала:

— О! Чорт!

Зірнула Мгу і закрычала з няменшым жахам. Галіна вывалася з рук, і яны пачалі ўцякаць да берагу.

— Што? Што такое?—запыталіся дарослыя.

— Чорт страшэнны. З вачыма,—казала Мгу, трасучыся ад жудасьці.

Бацькі зьдзівіліся, пачалі пытацца падрабязьней, але ніякага толку не дабіліся, акрамя слоў: „чорт! страшэнны! баюся!“

Мужчыны селі ў лодку, пад‘ехалі да таго месца, паднялі галіну, але нічога ня ўбачылі. Так і рашылі, што дзяўчатам нешта здалося.

Прайшло некалькі дзён. Аб гэтым здарэньні нават забыліся, толькі дзяўчаты памяталі і ніколі ня ішлі зьбіраць спажыву з гальля.

Але хутка і Кос з жонкай натрапілі на нешта незразумелае. Яны падрыхтаваліся лавіць рыбу торбай, што выдумаў Манг. Паднялі галіну, убачылі, як звычайна, рыбу і толькі нацэліліся апусьціць прыладу, як унізе заварушылася нешта вялікае і нязграбнае, нібы камяк зьмеяў, і разам з гэтым вада пачарнела, нібы хто напусьціў туды атраманту. Рыба зьнікла, нічога больш нельга было разгледзець.

— Што за дзіва такое?—паціскаў плячыма Кос:—Тойдо! Хутчэй сюды!

Пад‘ехаў на другім чоўне Тойдо, зірнуў і ўбачыў толькі чорную ваду.

— Нічога не разумею,—сказаў ён, недаўменна зірнуўшы на Коса.

— Гэта—чорт! Гэта, мусіць, чорт!—закрычалі з берагу дзяўчаты.

— Які там чорт, калі нічога ня відаць!—адказаў Тойдо.

— Страшэнны. З вачыма,—паўтаралі дзяўчаты.

— Ды нічога тут страшэннага ня відаць,—сказаў Кос:—мусіць, струмень чорнай, бруднай вады надышоў.

На гэтым справа і скончылася, тым болей, што праз некалькі хвілін яны налавілі рыбы бяз жадных перашкод.

Яшчэ прайшоў дзень-другі. Аб здарэньні ня думалі. Але нарэшце і самім мужчынам прышлося пераканацца, што дзяўчаты не памыліліся.

Аднаго разу Тойдо і Кос паднялі галіну і ўбачылі ў вадзе нешта такое, ад чаго нават яны скамянелі.

На іх глядзела страшэнная галава, такая агідная і жудасная, што наш родны чорт, якога ўяўляе сабе цёмны народ, у параўнаньні з гэтым павінен быў-бы здавацца анёлам. Жудасьней-жа за ўсё былі вочы, вялічэзныя, пукатыя, нібы шкляныя. Яны сьвіціліся ў вадзе зеленаватым колерам і глядзелі ўпарта, ня міргаючы, з нейкім жудасным выразам. Невядома, ці знайшоўся-б у сьвеце чалавек, які не ўздрыгануўся-б ад гэтага погляду. А вакол галавы, заместа валасоў, варушыліся ціханька зьмеі.

Усё гэта мільганула перад мужчынамі на адзін толькі момант, бо яны адразу-ж выпусьцілі з рук галіну. Але ўражаньне было такое моцнае, што яны нават нічога не сказалі, а толькі хутка пачалі грабсьці да берагу.

— Што з вамі здарылася?—запыталіся зацікаўленыя жонкі.

— Чорт. Дзяўчаты праўду казалі,—прашапталі яны.

Пачалі радзіцца, што рабіць?

— Пакуль што ён нам ня шкодзіў,—выказаў сваю думку Кос:—Можа і надалей ня будзе чапаць?

— Гэтага мы ня можам ведаць,—сказаў Тойдо:—Але жыць побач з ім... з такім... Бррр!..

Задрыжэў і Кос. А дзяўчаты, дык тыя зусім гатовы былі самлець, калі пачалася аб гэтым гутарка. Матак таксама абхапіў жах, хоць яны пакуль што і ня бачылі нічога.

— У такім разе трэба было-б уміласьлівіць яго,—сказаў Кос,— прынесьці яму ахвяру.

Гэта думка ўсім спадабалася, асабліва жанчынам. Пачалі радзіцца, што паднесьці? Папершае, трэба было патрапіць, што ён любіць, а падругое, каб гэта было сапраўды нешта значнае, каштоўнае. Рыбу не запрапануеш, пінгвіна або качку— таксама, бо ён, як вадзяны, сам можа мець гэтае дабро. Значыцца, трэба нешта надзвычайнае, напрыклад, якую-небудзь земную жывёліну.

Назаўтрае Тойдо з Косам адправіліся на паляваньне. Яны пайшлі, або лепш сказаць, палезьлі тэю самаю дарогаю, што і раней, калі йшлі за палівам. Узьлезьлі на першую тэрасу, на другую; агледзелі той самы хмызьняк. З-пад ног выбегла жывёліна з пекнай сівой поўсьцю, падобная да вялікага пацука.

Мужчыны не зьвярнулі на яе ўвагі, лічачы яе нікчэмнай ахвярай. Але гэта „шыншыла“ дае каштоўную скуру, якая ў Эўропе цэніцца вельмі дарага. За адну шыншылавую хутру пані плацяць 25.000 рублёў.

Падняліся яшчэ на адну тэрасу, там ужо было больш вялікае плоскаўзвышша, пакрытае нібы мохам, нібы травою.

— Глянь, ці ня жывёлы якіясь там?—сказаў Тойдо, паказаўшы рукою далёка на ўсход.

Сапраўды, там ля скал рухалася некалькі чорных кропак. Калі падышлі бліжэй, убачылі некалькі жывёлін, нібы авечак. Толькі шыя ў іх была тонкая і доўгая ды морда вастрэйшая. Завецца гэта жывёліна альпага і цэніцца сваёй воўнай.

Відаць, іх тутака ніхто ніколі ня трывожыў, бо яны не палохаліся, не ўцякалі, а толькі зьдзіўлена глядзелі на людзей. Нашы паляўнічыя мелі пры сабе толькі сякеры ды кароткія дзіды. Аднак-жа падыйсьці блізка да альпагоў не ўдалося: заўважыўшы, што незнаёмыя двуногія жывёлы ідуць проста на іх, яны адбегліся далей. А схавацца на гэтым голым месцы, каб падкрасьціся зусім блізка, нельга было.

Пачалі радзіцца, як тут быць?

— Ці нельга будзе загнаць іх у якую-небудзь вузкую шчыліну?—прапанаваў Кос.

— Нічога іншага не застаецца,—згадзіўся Тойдо:—Пагонім вунь у тую цясьніну.

Абышлі з двух бакоў і асьцярожна пагналі. Праз некалькі хвілін альпагі былі загнаны ў вузкі доўгі калідор, адкуль ужо ніякага выхаду ня было.

Але, калі падышлі да канца цясьніны, альпагоў там ня было: яны зьніклі, нібы скрозь зямлю праваліліся.

— Куды-б яны маглі дзецца? Здаецца, ніякага выхаду няма?—дзівіліся мужчыны.

Але выхад быў: для горных жывёл досыць самых маленькіх прыступачак, каб прабрацца там, дзе, як кажуць, сам чорт нагу зломіць. Раззлаваныя паляўнічыя рашылі шукаць іх далей. Разгледзеўшы больш-менш зручнае месца, яны палезьлі ўверх: паперадзе—Тойдо, ззаду—Кос.

З аднэй пляцоўкі яны сапраўды ўбачылі альпагоў, але чамусьці з другога боку цясьніны. Значыцца, яны або абышлі навакол, або выбраліся з другога боку.

— Не, мусіць нічога ня будзе,—сказалі зьбянтэжаныя паляўнічыя.

Затое вышэй, над сваёй галавой яны заўважылі нешта другое. У прытульнай вынятцы скалы віднеўся нібы край гнязда, дзе відаць было, варушыліся птушаняты.

Тойдо і Кос пераглянуліся.

— Можа гэта будзе ня горш за альпагу?

Яны ведалі, што гэта ёсьць гняздо птушынага цара—кондора, найвялікшага арла ў сьвеце. Такая ахвяра для вадзянога духа магла-б быць яшчэ болей пачэсная, чымся іншая жывёла.



**Кондор кінуўся на Тойдо.**

І Тойдо зараз-жа палез уверх. Даступіцца да гнязда было вельмі цяжка. Кос з жахам глядзеў, як той чапляўся, рызыкуючы абарвацца кожны момант. Урэшце Тойдо дабраўся, але з-пад нізу, пад гняздом. Каб заглянуць у яго, трэба было перахіліцца назад і вісець над бяздоньнем.

У гэты момант уверсе пачуўся нібы сьвіст і разам з гэтым вялізная цень зацямніла сьвятло. Над галавой Тойдо кружыўся птах, крыльлі якога дасягалі блізка што трох мэтраў у размаху.

— Злазь хутчэй!—крыкнуў Кос, але было ўжо позна. З нейкім хрыпатым крыкам кондор накінуўся на Тойдо і дзюбануў яго у галаву. На шчасьце дзюба сьлізганула збоку і параніла толькі вуха.

Бараніцца Тойдо мог толькі аднэй рукой, але супроць гэтай птушкі такая абарона ня мела аніякага значэньня. Горш-жа за ўсё было тое, што Тойдо і думаць ня мог аб тым, каб злазіць. Аднэй рукой ён трымаўся за скалу, а другой адбіваўся нясупынна.

У такім становішчы нельга было пасунуцца ўніз ні на крок.

Кос мог дапамагчы толькі крыкам, а гэтым ня спудзіш такой птушкі. Вось яшчэ адзін удар у плячо: пацякла кроў... Адразу відаць было, што бяззбройнай рукой нельга адбіцца ад страшэннай дзюбы, кіпцюроў і крыльляў. Другая рука тымчасам пачала дрантвець, а перамяніцца ня было магчымасьці, бо ня было часу.

Тойдо ўжо добра разумеў, што набліжаўся канец, што праз хвіліну ён паляціць уніз, калі да гэтага кондор не разаб‘е яму галавы...

А драпежнік усё кружыўся над галавой, усё вузей і шчыльней рабіліся кругі. Вось ён наляцеў апошні раз, ударыў Тойдо крылом і падрыхтаваўся канчаткова прадзяўбсьці галаву.

Сілы Тойдо ўжо скончыліся, надзея прапала. Апошні раз узмахнуў ён рукой і... ухапіўся за голую кондораву шыю; зараз-жа і другая рука сашчапілася вакол яе,—і абодвы ворагі паляцелі ў бяздоньне...

А Кос толькі рукі падняў уверх, ды так і застаўся стаяць увесь скамянелы.

Кондор цяперака ўжо думаў толькі аб сабе. Ён адчуваў, што рукі чалавека душаць яго і стараўся вырвацца і паляцець. Ён махаў сваімі магутнымі крыльлямі, але цяжар чалавека няўхільна цягнуў яго галавой уніз. Вось ужо і драпежнік пачаў траціць прытомнасьць, але з апошняй моцы ўсё махаў і махаў крыльлямі...

Калі Кос спусьціўся ўніз, ён убачыў абодвых ворагаў мёртвымі. Рукі Тойдо ўсё яшчэ сьціскалі шыю кондора.

Але праз хвіліну Тойдо заварушыўся, выпусьціў шыю і расплюшчыў вочы.

З радасным крыкам кінуўся да яго Кос, прыпадняў яго і пачаў пытацца, як ён сябе адчувае.

Тойдо зусім ачуліўся, пачаў кратаць сябе, але, апрача крыві ля вуха, раны на сьпіне ды тупога болю ў баку, нічога дрэннага не адчуваў і нават сам устаў.

І сапраўды, калі ня лічыць раны на сьпіне, праўда, досыць значнай, наогул ён зусім не пацярпеў. Ён спусьціўся з кондорам нібы на „парашуце“ *).

Дзякуючы таму, што кондор задушыўся не адразу і ўвесь час біўся і махаў крыльлямі, ён такім чынам затрымліваў паданьне і апусьціўся павольна. Такі выпадак мог здарыцца толькі з кондорам, які настолькі вялікі і дужы, што сам на-

*) Парашут—нібы парасон, які дае магчымасьць спускацца з вышыні павольна. Ім, напр., карыстаюцца лётнікі, калі ў вышыні папсуецца самалёт.

падае на альпагоў, гуанакаў, ламаў і іншых кордылерскіх жывёл, сьпіхваючы іх у бяздоньне *).

Кондор ляжаў, распасьцёршы свае чорныя з белымі канцамі крыльлі. Крэпкая кручкаватая дзюба, сьціснутая з бакоў, была адчынена і адтуль высоўваўся востры язык. Асабліва няпрыемны выгляд мела шыя, голая, мяснога колеру, з чырвонымі зморшчкамі скуры па баках, а ля галавы нейкія жмуты ні то пер'я, ні то поўсьці.

Амыўшы раны лёдавай вадой, Тойдо зусім стаў бадзёрым, і яны весела павалаклі сваю здабычу да дому.

У гэты-ж самы вечар, пры сьвеце вогнішча, адбылося ахвяраваньне. Прывязалі каменьні да ног кондора, каб ён пайшоў на дно, паднялі на рукі, і Кос, нібы жрэц, сказаў прамову:

— Дух вадзяны! Уладар мора! Ня скрыўдзі бедных людзей, дазволь нам пакарыстацца з тваёй гаспадаркі. А ў знак нашай пашаны да цябе прымі ад нас гэтага цара птушак, якога мы здабылі, рызыкуючы сваім жыцьцём.

Цікава і жаласна было глядзець, як гэтыя дзеці прыроды рабілі сваё першабытнае набажэнства. Твары выглядалі сур'ёзна, урачыста, кожны адчуваў, што адбываецца вялікі момант, ад якога залежала іх далейшае спакойнае жыцьцё. Вакол сурова стаялі чорныя скалы, вада была таксама чорная, таемная; агонь адбіваўся ў ёй, асьвятляў ля берагу, але за некалькі крокаў было яшчэ больш таемна і жудасна. Вось заварушылася падводная лісьце: некалькі крабаў падпаўзьлі, каб

---

*) Гуанако—падобна да альпагі, толькі поўсьць кароткая (апрача жывата). Лама—крыху нагадвае вярблюда, толькі значна меншая; яна служыць заместа коняй. Кордылеры—самыя вялікія горы (14.000 клм. даўжыні) па заходняму берагу абедзьвюх Амэрык.

падзівіцца на агонь. А там глыбей сядзіць „ён“, слухае і чакае ахвяры. Вунь там, здаецца, блішчаць яго зялёныя вочы...

Заплюхцела вада, бліснулі бырзкі—і ахвяра павольна пайшла на дно. Праз хвіліну ўсё сьціхла, зьнікла, толькі ўстрывожаныя хвалькі плюскаталі ля падножжа скал.

З палёгкай уздыхнулі людзі. Кожны быў упэўнены, што пасьля такога ўрачыстага ахвяраваньня дух ня будзе рабіць ім крыўды.



**Цікава і жаласна было глядзець, як гэтыя дзеці прыроды рабілі свае першабытнае набажэнства.**

І сапраўды, пасьля гэтага яны ўжо ня бачылі страшыдла і амаль што забыліся аб ім.

— Я сказаў, што ахвяра дапаможа!—задаволена паўтараў Кос. Але гэта і так усім было ясна.

Спакойна спалі людзі на беразе, закапаўшыся ў свае скуры. Агонь пагас. Пачало сьвітаць. Наверсе ўжо стрэльнулі праменьні сонца, але тутака быў яшчэ змрок.

Вось ля берагу ў вадзе нешта заварушылася. Праз хвіліну з-пад вады высунулася нібы зьмяя, але без галавы. Мусіць таму яна папаўзла на бераг асьцярожна, няўпэўнена, нібы вобмацкам. Усё цела яе было пакрыта нейкімі нарастамі, якімі яна мацала тое, да чаго дакраналася.

Вось яна абмацала голую нагу хлопчыка і зараз-жа абкруцілася вакол яе. Хлопчык праз сон ўздрыгануўся некалькі разоў, але не прачнуўся. А разам з гэтым з-пад вады выпаўзла на гэты раз ужо хутка і ўпэўнена другая зьмяя і абвінула другую нагу.

На гэты раз хлопчык прачнуўся і закрычаў. Паўскаквалі дарослыя і ўбачылі, што дзьве зьмяі цягнуць хлопчыка ў ваду. Ня доўга думаючы, Тойдо ўхапіў сякеру і перасек адну зьмяю.

Але ў гэты момант у вадзе нешта моцна плюхнулася, у паветры са сьвістам мільганула нібы пуга—і трэцяя зьмяя абкруцілася вакол шыі Тойдо. Спачатку ён пачуў, нібы яго апякло гарачае жалеза, а потым паступова пачало сьціскаць яго шыю.

— Кос! Рубі!—прахрыпеў Тойдо. Але Кос і бяз гэтага не драмаў. Мігам разрубіў ён гэтую зьмяю і думаў быў ужо ратаваць хлопчыка, як у паветры ўзьвілася чацьвертая зьмяя. Але ад яе пасьпелі адскочыць. Пакруціўшыся ў паветры, яна апусьцілася на хлопчыка. Абодвы мужчыны кінуліся дапамагаць, але...

— Чорт! Чорт!—закрычалі жанчыны, з жахам гледзячы ў ваду. Паглядзелі туды мужчыны, і сякеры вываліліся з іх рук...

З-пад вады, вылупіўшы свае вагромністыя вочы, глядзела на іх тая самая страшэнная галава, вакол якой у запасе яшчэ былі зьмеі.

— О, дух! Зьмілуйся над намі!—прастагнаў Тойдо і паваліўся ніц на зямлю. Кос і жанчыны зрабілі тое самае.

А тымчасам на іх вачох хлопчыка пацягнула ў ваду...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз некалькі хвілін два чаўны сьпешна выяжджалі ў мора. Няшчасныя людзі павінны былі ўцякаць з найлепшага прытулку, які толькі маглі мець. Уцякаць затым, што іх ашукаў „чорт“: прыняў ахвяру, як добры, а потым вось што нарабіў*).

*) „Чорт“ гэты быў так званы спрут, або васьміног (дзеля таго, што ён мае 8 такіх ног-зьмеяў), які адносіцца да разраду малюскаў (мяккацелых). Ён зьяўляецца раднёй такой нікчэмнай жывёлы, як наш сьлімак, але сам часам дасягае 2.000 кілёграмаў вагі, а ногі часам бываюць да 10 мэтраў. Яны сустракаюцца ўсюды, але такія вялізныя бываюць рэдка. Яны настолькі страшэнныя і агідныя, што, здаецца, ні аб кім няма столькі апавяданьняў, колькі аб гэтых васьміногах.

## VIII.

**Чаканьне.—Нгара!—Барацьба ў вадзе.—І „чорт“ умяшаўся!—Сьмерць пад рогат.—Вандраваньне з паненкай.—Спатканьне са сваімі.**

Манг ляжаў на беразе, але не адчуваў адпачынку. Думкі віхрам круціліся ў галаве, стараючыся адгадаць, што тутака здарылася. Можа часова яны выехалі? Але чаму тады няма шалаша, ніякіх рэчаў? А калі назаўсёды, дык з якой прычыны? Можа яны загінулі ўсе? Але гэтага ня можа быць.

Тут ён заўважыў, што зусім у другім месцы, воддаль ляжаць нейкія рэчы. Падышоў, паглядзеў. Вось гаршчок, але ня іх, мабыць, Косаў. Вось сякера, але гэта ўжо зусім незнаёмая, нават ня Косава. Вось нейкі пас, якога ня меў ні яго бацька, ні Кос.

І некалькі скурак, таксама незнаёмых.

Значыцца, тутака ўжо жыве іншы гаспадар! Як гэта магло здарыцца? І хто ён, ці яны? Няўжо-ж яны пагубілі ўсю яго радню і самі пасяліліся? Але рэчы сьведчаць, што народу тутака нямнога, бадай ня болей як два чалавекі.

Значыцца, нічога не застаецца, як чакаць і пільнаваць. І Манг прытуліўся за выступ скалы.

Чакаць прышлося нядоўга, бо дзень ужо канчаўся. Праз некалькі хвілін па-за скалой пачуўся плюскат, нібы хто грабе вяслом, а яшчэ праз хвіліну паказалася і лодка. Мангу адразу

стала лягчэй на сэрцы, калі ён убачыў, што там сядзіць толькі адзін чалавек.

Але праз момант ён ледзь не закрычаў і ня выскачыў, калі пазнаў, што гэта Нгара. Дык вось хто тутака абсталяваўся,—Манг пачаў нават трасьціся ад злосьці. Яму здавалася, што Нгара так марудзіць, што ніколі не даедзе да берагу.

Той тымчасам павольна і спакойна пад'ехаў, выкінуў з лодкі нейкую птушку, гальлё, потым, не сьпяшаючыся, сам вылез. Па ўсіх яго рухах відаць было, што ён адчувае сябе дома. Нават ні разу ня зірнуў па баках.

Манг сьцяў губы, напружыўся і чакаў найбольш зручнага моманту, каб кінуцца на ворага. Нгара падышоў да вогнішча, схіліўся, памацаў попел. Відаць, ён быў яшчэ гарачы, бо Нгара падкінуў сухой травы і пачаў дзьмуць.

Гэта ўжо быў самы зручны момант для Манга. Але ў апошнюю хвіліну ён зьмяніў плян. Заместа непасрэднай барацьбы ён рашыў зрабіць так, як тады Нгара зрабіў з ім, г. зн. захапіць кану.

Як тыгра, папоўз Манг да чоўна. Быў ужо змрок, дый бяз гэтага Нгара быў так заняты сваёй справай, што яму не магло прыйсьці ў галаву азірацца назад. Азірнуўся ён толькі тады, калі пачуў шум ля чоўна. Убачыўшы ў чоўне Манга, ён вачом сваім ня мог паверыць. Адкуль? Якім чынам? Ці не з таго сьвету зьявіўся?

— Ну, Нгара,—злосна сказаў Манг, адапхнуўшыся ад берагу,—цяперака мой чарод пажадаць табе ўсяго лепшага. Падзякуй толькі, што я не забіў цябе, як пінгвіна.

Голас Манга паказаў Нгару, што ўсё гэта сапраўднасьць. Злосьць і роспач сьціснулі яму горла, і, нядоўга думаючы, ён кінуўся за Мангам у ваду. Манг гэтага зусім не чакаў. Ён пасьпеў ад'ехаць толькі на некалькі крокаў, і Нгара адным ма-

хам дасягнуў яго, учапіўся за край чоўна і перавярнуў яго разам з Мангам.

Абодвы апынуліся ў вадзе. Завязалася барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць. Хоць ні аб чым іншым цяпер нельга было думаць, але Манг уздрыгануўся ад няпрыемнага адчуваньня, калі ногі яго заблыталіся ў сьлізкім гальлі падводнага дрэва.

Нгара быў дужэй Манга. Яму адразу ўдалася ўхапіць Манга ззаду і занурыць яго ў ваду. Становішча Манга стала дрэнным. Калі ён ня вызваліцца ў працягу поўхвіліны, дык загіне. Але-ж затое ён меў і перавагу—гэта капітанскі кінжал. Зараз-жа ён выхапіў яго, але ня мог як сьлед размахнуцца, бо Нгара трымаў яго ззаду за плечы. А вада тымчасам пачала душыць, набірацца ў нос.

Раптам Манг пачуў, што Нгара чамусьці закрычаў і выпусьціў яго. Манг высунуў галаву, і ўбачыў, што вакол Нгара абкруцілася зьмяя. Не пасьпеў Манг апамятацца, як пачуў, што і яго нагу апякло і сьціснула. Манг схіліўся і адным махам адрэзаў зьмяю сваім вострым аружжам. Тады вынырнуў і ўчапіўся за човен.

Нгара тымчасам біўся, каб вызваліцца ад сваёй пятлі. Ён таксама трымаўся за човен і ўжо не зварачаў увагі на свайго ворага. Трэба сказаць, што і Манг таксама думаў толькі аб гэтай новай бядзе, хоць цяперака ён і мог ужо забіць свайго ворага.

Не пасьпеў ён адплысьці, як адчуў, што ізноў абхапіла яму нагу. І на гэты раз ён хутка вызваліўся, а тымчасам вакол Нгара абвілася другая зьмяя.

Нгара бачыў у руках Манга нож, бачыў, як лёгка Манг вызваляе сябе і пачаў прасіцца:

— Братка, вызвалі мяне, я табе ўсё аддам!

— Дурны!—злосна ўсьміхнуўся Манг,—што-ж ты мне аддаеш, калі я і без цябе магу забраць.

І хутка паплыў да берага. Тамака сеў сабе спакойна і пачаў зьдзеквацца над няшчасным.

— Ты-ж бачыш, што я мог цябе забіць, але не хачу пэцкаць свайго прыгожага нажа. Хай лепш цябе задушаць гэтыя зьмеі. Вось так, вось так! Го-го-го! Дарэмна ты радаваўся, што мяне няма на сьвеце.



**Пад сьмех Манга, Нгара апускаўся ўсё глыбей і глыбей.**

А зьмеяў гэтых абкруцілася ўжо тры. Цяпер ужо справа пайшла хутчэй. Пад сьмех Манга, Нгара апускаўся ўсё глыбей і глыбей і, нарэшце, з жудасным крыкам зьнік пад вадой. Толькі бурбалкі сьведчылі, што там адбываецца трагэдыя.

Калі ўсё скончылася, Манг выбраў даўгую галіну, зачапіў човен, падцягнуў да берага, выцягнуў яго, упарадкаваў і выехаў у мора.

Было ўжо зусім цёмна. Пасьля ўсяго таго, што ён перажыў, было неяк дзіўна прыпомніць, што там яго чакае нейкая „белая птушка“. Здавалася, што гэта было даўно-даўно, а мо‘ і зусім ня было... Мо‘ ніякай птушкі і няма.

А дзяўчына ўсё стаяла на скале. Даўно ўжо скамянела сэрца; даўно ўжо адрантвела цела, а разам з імі і думкі; даўно ўжо яна шаптала сама сабе, што ўсё скончана, што надзеї няма,—а між тым не адводзіла вачэй ад таго боку, куды паплыў Манг, увесь час прыслухоўвалася, ці ня чуваць яго, увесь час інстынкт падказваў: а можа прыедзе?

І вось аднекуль з мора даляцеў крык, доўгі, бадзёры. Затрапяталася паненка ўсёй сваёй істотай,—ці ня Манг дае знаць, што едзе? А можа і не?..

О, каб гэта быў ён, мілы, родны Манг! За ўсё сваё жыцьцё яна нікога так не чакала, нікога так не жадала бачыць, як цяпер гэтага дзікуна—„людаеда“. У гэты момант ён здаваўся ёй лепшым за ўсіх яе знаёмых лёрдаў, сэраў, містэраў і іншых франтаў.

Вось новы вясёлы крык, потым плюскат, зачарнеўся човен, і пад‘ехаў Манг. Напружаныя нэрвы ня вытрымалі, сьлёзы радасьці паліліся з дзявочых вачэй, і яна павалілася Мангу на рукі.

Ужо сьвітала, калі яны прыехалі дадому. Пасьля ўсяго перажытага, яны спалі ўвесь дзень, нібы забітыя.

На другі дзень дзяўчына пачала хвалявацца і патрабаваць, каб ехаць далей. Манг і сам ведаў, што трэба ехаць шукаць бацькоў, але пагода сапсавалася. Прыходзілася чакаць. А чаканьне гэта цягнулася цэлы тыдзень.

Хоць тутака лепш, цішэй было, чымся там на востраве, дый прылады былі, але дзяўчыне здавалася, што гэты няпрыемны, нудны тыдзень быў горшым за ўсё папярэдняе. Нарэшце скончыліся і гэтыя дні. Паехалі далей на поўдзень.

Вось і Магелянава пратока. Дзяўчына пазнала месцы, дзе яна нядаўна праяжджала. Яна думала, што яны тутака будуць чакаць параходу, але Манг накіраваўся далей на поўдзень. Паненка пачала паказваць, каб ён спыніўся. Манг паслухаў яе, прыпыніў човен, пастаяў, а далей што?

Дзяўчына рознымі спосабамі пачала тлумачыць, што тутака павінен ісьці параход і што трэба пачакаць яго. Манг прыслухаўся, прыгледзеўся, заматаў галавой, што ніякага параходу няма, і накіраваўся далей. Дзяўчына заспрачалася, раззлавалася, расплакалася, адным словам, адбылася „сямейная сварка".

Манг ня ведаў, што рабіць. Ізноў спыніліся, пастаялі. Дзяўчына напружана глядзела ва ўсе бакі і, здавалася, чакала, што вось-вось зьявіцца карабель.

Манг сядзеў і чакаў, што будзе далей.

— Як-жа-ж тутака стаяць? — пачаў ён тлумачыць ёй па-свойму:—Можа кану белых зьявіцца праз месяц?

Але гэтых слоў яна не магла зразумець. Яна ведала толькі, што гэта апошняя надзея сустрэць карабель. Калі яны ад'едуць ад гэтага гасьцінцу, дык, можа, ніколі ўжо ня сустрэнуць.

Пачакаў крыху Манг і зноў пасунуўся. Ізноў дзяўчына запратэставала.

Манг, як толькі мог, пачаў тлумачыць і паказваць, што стаяць тутака нельга, што трэба спыніцца там, і што яны вернуцца сюды, каб чакаць парахода.

Яна і сама добра ведала, што стаяць тутака ўвесь час немагчыма, але чаплялася за надзею, як тонучы за саломіну. А можа праз хвіліну зьявіцца параход? А што, калі ён пакажацца тады, калі яны толькі што ад'едуць адсюль?

Праваландзіўшыся такім чынам з гадзіну, паехалі ўсё-ж такі далей. Яна хацела прыпыніцца дзе-небудзь тутака, недалёка,

але Манг паехаў далей. І зноў пачаліся крыкі, папрокі, сьлёзы, але Мангу ўсё гэта ўжо абрыдла, і ён ехаў сабе далей.

Пайшлі знаёмыя вуліцы, дамы, вось і вадаспад пыліцца, вось і „дзядзінец“, куды яны калісьці схаваліся ад кіцянят, так сама зьзяюць сьнегавыя верхавіны,—усе знаёмыя, мілыя сэрцу вобразы, усё прыгожае, прыемнае, прытульнае, як гэта здаецца кожнаму, хто пасьля доўгага расстаньня прыяжджае на радзіму.

А для яго спадарожніцы ўсё гэта здавалася мёртвым, дзікім, няпрытульным.

„Куды ён мяне вязе?—з маркотай думала яна.—Вось калі дзікун паказаў свой сапраўдны твар! Вось дзе прыдзецца мне загінуць!“

А тут якраз натрапілі на цэлую сям‘ю дзікуноў у чаўне. Убачыўшы Манга ў капітанскім адзеньні і з ім белую жанчыну, дзікуны ад зьдзіўленьня так пачалі крычаць ды махаць рукамі, што дзяўчына канчаткова рашыла, што ёй прышоў канец.

Але пасьля перагавораў з імі Манг павярнуў налева і паехаў на ўсход, пакінуўшы дзікуноў з разьзяўленымі ратамі.

Чым далей ад‘яжджалі ад акіяну, тым большыя і нізейшыя былі астравы. Пачала зьяўляцца трава, дрэвы. Там далей, на ўсходзе, ёсьць і лясы і лугі, але жыве тамака сільнае ваяўнічае племя „ўна“. Гэтыя ўна дужы, злы народ; яны здаўна ўжо выпхнулі мірных фуіджы на бясплодныя заходнія скалы і ня пускаюць іх назад.

Два дні ехалі на ўсход і на трэці дзень а поўдні ўбачылі два чаўны. Гэта былі Тойдо і Кос. І тутака яны разьмясьціліся нядрэнна. Бераг быў нявысокі, даступны і лясісты. Пад дрэвамі была пабудавана з гальля будка, праўда, нязграбная, але ўсё-ж такі будынак.

Уся колёнія замітусілася і нават занепакоілася, калі ўбачыла човен з нейкімі дзіўнымі людзьмі. Нават, калі Манг

пад‘ехаў блізка і гукнуў, яны ўсё яшчэ не маглі даць веры, што гэты чалавек у дзіўным убраньні ёсьць Манг. Ды яшчэ з ім нязвычайная дзяўчына.

Як-бы там ні было, а калі ён зусім пад‘ехаў і вылез на бераг, прышлося пераканацца, што гэта іх Манг. З неўразуменьнем і нейкай баязьню падышлі крэўныя да Манга, увесь час пазіраючы на лодку, дзе сядзела дзяўчына, якая баялася вылезьці на бераг.

Пачаліся пытаньні, што і як адбылося за гэты час. Манг расказаў аб сваіх прыгодах, з горам пачуў аб сьмерці свайго брацікa.

— А навошта табе гэта?—сказаў нарэшце бацька, паказваючы на дзяўчыну ў чаўне. Што ты з ёй будзеш рабіць?

— Ня ведаю, —адказаў сын. —Трэ‘ будзе як-небудзь перадаць яе белым.

Стары паківаў галавой.

— Нам самым няма чаго есьці, а тут яшчэ з ёю важдайся,—незадаволена сказаў ён.

— А як-жа-ж было рабіць?—апраўдваўся сын:—Няўжо-ж трэ‘ было даць загінуць або кінуць у мора?

— А хоць-бы і так!—адказаў Тойдо:—Што нам да іх?

Кос стаяў побач, скоса пазіраў на прыежджую і, відаць, згаджаўся з Тойдо.

А міс Грэт сядзела ў чаўне і чакала вырашэньня свайго лёсу. Яна бачыла, што гутарка ідзе аб ёй, і была ўпэўнена, што нарада ідзе аб тым, якім спосабам яе забіць і зьесьці.

— Дык вось дзеля чаго гэты дзікун стараўся выратаваць мяне?—з прыкрасьцю думала яна, пільна сочачы за Мангам. А разам з тым мімаволі зьяўлялася і надзея: а можа ён ня дасьць?

Нарэшце Манг зьвярнуўся да яе, запрашаючы вылезьці на бераг. Са сьціснутым сэрцам вылезла яна і села воддаль на траве. Дзікуны абступілі яе і пачалі дзівіцца, нават кран талі яе адзеньне, якое, сказаць да рэчы, ня мела нічога агульнага з ранейшым: бруднае, парванае. Ды яшчэ час-ад-часу міс Грэт чамусьці чухалася...

Больш за ўсё цікавіліся ёю жанчыны, і гэты ўважлівы агляд быў больш няпрыемны для дзяўчыны, чымся агляд старых мужчын. Яна адразу пачула сябе больш няшчаснай і бездапаможнай, чымся раней. Нават Манга цяпер пачала яна баяцца. Ён здаваўся ёй ужо чужым, далёкім, зусім ня слугой, як раней.

Нанач адвялі ёй куток у будцы, побач з жанчынамі, і гэта ноч пад страхой, сярод людзей, была для яе горшай, чымся раней пад адкрытым небам.

Наогул, у бясклопатным жыцьці нашых дзікуноў цяпер адчулася нешта няёмкае. Кожны момант адчувалася, што ў іх жыцьцё ўціснулася нешта чужое, непатрэбнае, перашкаджаючае, з якім нямаведама, што рабіць.

Асабліва цяжка было з ядой. І бяз гэтага ад дзяўчыны засталіся толькі скура ды косьці. Больш месяца яна ня бачыла ні кавалка хлеба, ні плада. Праўда, яна некалькі прызвычаілася да чарапашак, ракаў, рыбы, але раней яна прынамсі загадвала Мангу то тое, то гэта. Цяперака само праз сябе зрабілася так, што распараджацца і загадваць яна ўжо не магла, а сам Манг чамусьці адчуваў, што тутака, у сям'і, ён ня можа так клапаціцца і дагаджаць выключна ёй аднэй, як гэта было раней.

Ужо на другі дзень пачалася нарада між Косам і Тойдо па гэтай справе. Апрача ўсяго, у Коса была свая асобная думка, якая не давала яму спакою.

— Вось што, Тойдо,—сказаў ён сур'ёзна:—Ці ня думае Манг пакінуць гэтую рыбіну сабе за жонку? Тады парушыцца наша ўмова. Мы-ж, можна сказаць, пашылі яму кану.

— Я і сам гэтага баюся, — нахмурана адказаў Тойдо, — але-ж Манг сказаў, што ён перадасьць яе белым.

— Калі яшчэ гэта будзе, а пакуль што яна тутака зусім лішняя. І навошта нам клапаціцца аб ёй? Хай сабе ідзе на ўсе чатыры бакі.

— Манг ня згодзіцца яе выганяць, — сказаў Тойдо; — ён яе шкадуе; апрача гэтага, ён думае праз яе пазнаёміцца з белымі.

— Дый гэта зусім непатрэбна!—адказаў Кос.

— І я таксама лічу, але што-ж зробіш, калі ён моцна ўбіў сабе гэта ў галаву?

— Тады можам аслабаніць яго ад усяга гэтага, — прапанаваў Кос,—возьмем яе ды і адвязем на які-небудзь востраў. Хай сама сабе шукае дарогі. А Манг тады ажэніцца са Мгу і зажыве, як усе добрыя людзі.

Тойдо прызнаў, што думка досыць разумная. З гэтымі белымі Манг можа зусім адбіцца ад дому. Сам Тойдо старэе, малодшы сын загінуў, і можа здарыцца, што ў сям'і зусім не застанецца апоры.

А Манг тымчасам думаў аб далейшым падарожжы. Міс Грэт нерашуча зьвярнулася да яго, паказваючы, каб ехаць, і была вельмі абрадавана, калі ён весела і прыхільна заківаў галавой у знак згоды.

У той-жа дзень Тойдо і Кос загадалі, каб Манг і ўсе жанчыны (зразумела, апрача белай) пайшлі ў лес пашукаць ягад. Справа была звычайная, і яны зараз-жа адправіліся.

## IX

**Па ягады.—Она!—Гуанако падвёў.—Адступленьне.—Зьнікненьне „белай птушкі“.—Ізноў Манг выратаваў.—Карабель.—Урачыстае спатканьне „капітана Манга“.**

Гэты бераг можна было лічыць мяжой, за якой пачыналіся лясныя абшары. Чым далей на ўсход, тым багацей рабіліся лясы. А сярод іх уздымаліся сьнегавыя горы.

Хоць гэты край знаходзіцца і досыць далёка ад роўніка (55°), але большасьць дрэў і кустоў зелянеюць увесь год. Часьцей за ўсё сустракаецца бук—невялікае дрэва з меленькім, жорсткім, але пахучым лісьцем. Звычайна ўсё лісьце зьмяшчаецца на канцох галін, і здалёку такі бук нагадвае італьянскую хвою.

Асабліва-ж радуе вока магнолія, з бліскучым, нібы тлустым лісьцем. Прыгожа выглядаюць адтуль белыя кветкі, нібы нашы балотныя лялеі. Кара гэтага дрэва ўжываецца тутака, як лякарства, супроць розных хвароб.

Дзе-ні-дзе поперак дарогі трапляліся вялізныя дрэвы, што паваліліся ад старасьці. На іх зараз-жа накінуліся і абляпілі з усіх бакоў чужаедныя расьліны—мох, лішайнік, розныя нарасты і, паміж іншым, грыбы. Гаспадыні не абмінулі гэтых грыбоў і набралі ў свае торбы.

Але-ж затое ўсю музыку псуе калючы хмызьняк — „калафата“. Колькі пацярпелі нашы падарожнікі ад яго калючых

шыпоў! Нават дзеля гэтага хацелі вярнуцца назад, але Манг хутка вывеў усіх на шырокую сьветлую паляну, дзе ўжо натрапілі на ягады, падобныя да нашай маліны.

Пакуль жанчыны зьбіралі ягады, Манг, як адказны начальнік атраду, адышоў далей, каб паглядзець, ці няма якой-небудзь небясьпекі. Прайшоўся ў кірунку да сярэдзіны вострава, павярнуў направа,—і раптам заўважыў, што над лесам уздымаецца дымок.



**Ля вогнішча былі відны постаці людзей.**

Манг спыніўся і задумаўся. Што рабіць? Ці бегчы назад, папярэдзіць жанчын і ўцякаць разам з імі, ці спачатку даведацца, што там такое? Нарэшце, ён выбраў апошняе, бо сорамна было ўцякаць нямаведама ад чаго. І ён пачаў красьціся наперад.

Доўга ён пасуваўся, як цень, пакуль убачыў прасьвет, праз які ўжо было відаць вогнішча і постаці людзей. Потым лёг на зямлю і пачаў паўзьці. Праз некалькі хвілін ён ужо мог разгледзець чатырох мужчын, якія сядзелі ля вогнішча на беразе ручая. Гэта і былі „яна“.

Хоць Манг раней і не сустракаўся з імі, але пазнаў іх з бацькавых расказаў, якія ён чуў з маленства. Такімі ён сабе і ўяўляў іх: высокімі, дужымі, суровымі. На бронзавае цела была накінута шырокая накідка, пашытая са скур гуанако, лісіцы і пацукоў, а побач ляжалі лукі, стрэлы, пікі.

Ня гледзячы на дзень, цішыня была надзвычайная, бо ў гэтых лясох амаль што зусім няма лясных птушак, а таксама жукоў, мух і іншых казюлек, якія так гудуць у нас. Гэта дало Мангу магчымасьць пачуць некалькі слоў іх гутаркі. Але зразумець усяго ён ня мог, бо ў óна свая асобная мова. Ва ўсякім разе досыць было таго, што Манг пачуў слова „фуіджы“ ды ўбачыў некалькі злосных рухаў рукой у кірунку да берага. Значыцца, гаворка ішла аб іх і не абяцала нічога добрага.

Неспадзявана ззаду ад Манга пачуўся шолах, трэск, тупат. Манг азірнуўся і ўбачыў гуанако. Яно належыць да тэй самай пароды, што і альпага, але адрозьніваецца кароткай поўсьцю, доўгай тонкай шыяй, доўгай расьсечанай верхняй лупай і вялікімі вушамі.

Гэты шум таксама пачулі і óна. Яны заціхлі, схапілі сваю зброю і ціханька папаўзьлі проста да Манга...

Манг абамлеў. Уцякаць было дарэмна: —яны ўсё роўна дагоняць яго. Хавацца было позна самы нязначны рух выкрые яго. Адным словам, гэты праклятые гуанако загубіў яго!

А óна тымчасам набліжаліся да яго. Ляжаць на месцы і чакаць, пакуль на яго натрапяць, было немагчыма, і Манг як мага хутчэй пасунуўся ўбок. Гуанако між тым быў зусім блізка ад яго. Убачыўшы чалавека, жывёла спалохалася і кінулася ў другі бок. І гэта выратавала Манга.

Само па сабе зразумела, што ўся ўвага óна накіравана была на жывёлу. Яны папаўзьлі за ёй, а праз некалькі хвілін,

убачыўшы, што гнацца дарэмна, вярнуліся назад. А Манг тымчасам пастараўся борзьдзенька зьнікнуць.

Праз некаторы час уся сям'я вярнулася дадому.

Але там нікога ня было: ні бацькоў, ні белай дзяўчыны. Не хапала і аднаго чаўна. Значыцца, яны на ім паехалі. Але куды? Чаму?

— Можа тутака ўжо былі гэтыя óна? — з жахам сказала маці.

— Не,—упэўнена супакоіў Манг:—тады ўсё было-б парабавана, а цяпер, бачыш, нават „кану“ засталіся. Бяда толькі ў тым, што часу нельга марнаваць. Ці скора яны вернуцца?

Усім здавалася, што вось-вось зьявяцца ворагі. Жанчыны пачалі ўжо зносіць рэчы ў пакінутыя два чаўны.

Нарэшце з заварота паказаўся човен, але ў ёй сядзелі толькі Тойдо і Кос. Манг пачаў трывожыцца. Што магло здарыцца з дзяўчынай?

— Хутчэй! Хутчэй!—крычалі з берага жанчыны.—Óна! Óна!

Гэта слова ўстрывожыла мужчын. Пад'ехаўшы, яны зараз-жа пачалі пытаць, у чым справа, але Манг, заместа адказу, запытаў, дзе дзяўчына.

— Ня ведаем, — адказалі яны. — А дзе і колькі óна вы бачылі?

— Чатыры чалавекі, на адлегласьці дзьвюх гадзін, — казаў Манг.—А дзе была Белая Птушка, калі вы паехалі?

— Мы яе тутака пакінулі,—сказалі мужчыны.—Ці не заўважыў ты, якія намеры яны маюць?

— Відавочна, варожыя, бо грозна казалі слова „фуіджы“,—адказаў Манг.—Можа бачылі вы, у які бок яна пайшла?

— А на якое ліха яна нам здалася!—крыкнуў раззлаваны Тойдо. — Тутака для нас больш сур'ёзная справа: тутака ўсім нам пагражае небясьпека. Гэтыя паганыя óна спрадвеку

занялі найлепшыя месцы і сьцерагуць іх, як сабакі, нават і тады, калі і самім ім не патрэбна. Каб мы былі разумнейшыя, ды сабраліся ўсе разам...

— Ну, не храбрыся, Тойдо, — перабіў Кос. — Калі гэта яшчэ будзе, а покуль што нам самім трэба хутчэй ехаць.

— А я не паеду, — рашуча сказаў Манг.

— Што?! — вытарапіў вочы бацька: — Чаму? Што ты тутака будзеш рабіць?

— Шукаць Белую Птушку, — спакойна адказаў Манг.

— Дурны! Што ты адзін зробіш? Цябе она заб'юць!

— Аднаму яшчэ лепш. Я схаваю кану ў гушчары, а сам буду чакаць, пакуль яна прыдзе, а калі ня прыдзе, адшукаю яе.

Тойдо і Кос зірнулі адзін на аднаго і паціскалі плячыма.

— Ды нашто яна табе? — ізноў сказаў Тойдо.

— Я яе выратаваў ад сьмерці і абяцаў адвезьці да белых. Шкода, калі яна загіне ў апошнюю хвіліну. Нядобра будзе так пакінуць яе, нават ня спрабаваўшы выратаваць.

— А можа яна наўмысьля ўцякла ад нас? — сказаў Кос.

— Гэтага ня можа быць, — упэўнена адказаў Манг: — Белая Птушка занадта слабая і далікатная для такой справы.

Трэба дадаць, што Манг шкадаваў сваю „птушку“, як дзіцянё шкадуе сваю ляльку ці іншую прыгожую цацку. Рэч была такая рэдкая, прыгожая і цікавая ў іх жыцьці, што задарма губіць яе было шкода. А калі прыняць пад увагу, што праз яе ён спадзяваўся ўвайсьці ў зносіны з белымі, дык тады ўжо зусім варта было рызыкнуць.

Тымчасам зборы ў дарогу былі скончаны. А Манг пачаў цягнуць сваю кану на бераг.

Тойдо і Кос убачылі, што Манг не жартуе, што ён сапраўды застаецца. Сваёй „птушкі“ ён тутака ня знойдзе, а

толькі сам напэўна загіне. Значыцца, уся іх справа дасьць зусім ня тыя вынікі, на якія яны спадзяваліся. Крыху парадзіўшыся, яны хутка прышлі да пераканання, што прыдзецца сказаць Мангу, дзе яго „птушка“.

— Вось што, Манг.—сказаў тады Тойдо:—белай дзяўчыны ты тутака ня знойдзеш. Згодна яе жаданьню, мы адвезьлі яе бліжэй да шляху белых і пакінулі яе тамака на адным востраве.

— Дык яна-ж загіне там!—ускрыкнуў Манг.

— Можа хто-небудзь падбярэ,—сказаў Кос, гледзячы ўбок.

— Я тады сам адвязу яе,—горача сказаў Манг.—Дзе яна?

— Сядай у кану, мы табе пакажам.

Праз хвіліны тры чаўны ехалі ў той бок, адкуль толькі што вярнуліся Тойдо з Косам. Не даяжджаючы да таго вострава, дзе была пакінута дзяўчына, Тойдо спыніўся і сказаў Мангу:

— Вунь тамака яна за тэй скалой. Едзь сабе далей адзін, забірай сваю „птушку“ і вязі яе на шлях белых. Вяртайся хутчэй назад. Мы будзем ля „Вострава Пінгвінаў“.

І Манг паехаў далей адзін.

А няшчасная міс Грэт ізноў апынулася ў бязвыхадным становішчы, на гэты раз, здавалася, канчаткова. Калі Манг з жанчынамі пайшлі ў лес, да яе падышлі Тойдо і Кос і на мігі сталі казаць, што ёй трэба ехаць туды, да белых. Яны нават паказалі, як ідзе і гудзе параход. Сэнс іх размовы яна ўразумела, але яе вельмі дзівіла, чаму гэта яны робяць, а ня Манг, ды яшчэ ў адсутнасьці Манга.

Яна інстынктам адчула, што справа тутака нячыстая і пачала адмаўляцца. Тады мужчыны ўхапілі яе сілком і пасадзілі ў лодку. Цяпер ужо зусім стала ясна, што яе вязуць на сьмерць. Яна пачала біцца, плакаць, крычаць, але ёй зачынілі

рот. Нарэшце яна выбілася з сіл, самлела, і ў такім выглядзе яе давязьлі да невялічкага астраўка і высадзілі на бераг.

Калі яна крыху ачулілася, то ўбачыла, што ляжыць адна на беразе пад скалой. Зараз-жа прыпомнілася ёй, як яна стаяла тады на скале. Таксама падыходзіў вечар, таксама гола было навокал, таксама спакойна плюхалася мора, таксама ўперадзе была сьмерць. Толькі на гэты раз ня было ўжо надзеі, што прыедзе Манг...

І вось, нібы праз сон, убачыла яна, што пад'яжджае човен, а ў ім капітанскі мундзір.

— Манг?!—крыкнула дзяўчына шчасьлівым голасам, працягнула рукі і засьмяялася.

Усьміхнуўся і Манг, але потым з дакорам стаў вымаўляць:

— Чаму Белая Птушка ўцякла ад Манга? Ён сам павёз-бы яе да белых. А так ты загінула-б тутака!

Як зьдзівілася-б дзяўчына, калі-б магла ўразумець, што ён кажа! Але гэта ёй ня шкодзіла. Досыць было таго, што яна ізноў выратавана і на гэты раз напэўна паедзе насустрач караблю. Манг выразна паказаў, што яны не паедуць назад да бацькоў, а накіруюцца туды, да шляху белых.

Пацягнуліся дні бадзяньня па Магелянавай пратоцы. Дні больш цяжкія і галодныя, чымся раней, бо нельга было адлучацца ад дарогі, каб пашукаць лепшага месца і спажывы. А навокал голыя і няпрытульныя скалы. Пяць дзён прышлося начаваць у чаўне.

Але-ж затое кожны дзень быў поўны надзеі. Тут ужо сапраўды можна сказаць, што дзяўчына ўсе вочы прагледзела, чакаючы карабля. Не адставаў ад яе і Манг. Вось, здаецца, за скалой забялеўся парус або дым. Сэрца дзяўчыны гатова выскачыць з грудзей. Але гэта ўзьляцелі птушкі... Вось далёка нешта зачарнелася, плыве. Але гэта, ня вельмі далёка, плыве



— Манг?!—крыкнула дзяўчына шчасьлівым голасам.

такое самае кану нейкага фуіджынца... І гэтак з раньня да вечара, дзень за днём. Нават ноччу прыходзілася пільнавацьа, хоць караблі звычайна і ўхіляюцца ехаць уначы праз Магелянаву пратоку.

І вось на шосты дзень на кругавідзе сапраўды задыміўся параход. Ці можна апісаць, што адчула міс Грэт? Паграажала нават небясьпека, што яна сканае ад разрыва сэрца. Нельга было-б сказаць, што больш яе хвалявала: ці радасьць сустрэчы, ці боязьнь, што яны не патрапяць, што карабель абміне іх, як тады... Але цяпер яны ўжо мелі досыць часу, каб стаць якраз на дарозе.

Карабель набліжаўся. Дзяўчына на чаўне так мітусілася, што некалькі разоў ледзь не перакуліла яго. Для большай упэўненасьці яна адарвала рукаў свайго і бяз гэтага парванага адзеньня і пачала ім махаць.

Але там і самі праз біноклі заўважылі нязвычайных пасажыраў: нібы эўропэйскую жанчыну, падобную да дзікай, і дзікуна, апранутага ў эўропэйскае адзеньне.

Вось карабель прыпыніўся. Спусьцілі сходні. Ля краю згрудзілася зацікаўленая публіка. Ля волата-карабля бездапаможна кідалася муха-лодка. З вялікім усілкам Манг накіраваў яе да сходняў. Вось Белая Птушка ўчапілася за вяроўкі і палезла ўверх. У Манга ажно дух заняло, калі ён падняў галаву і зірнуў на гэту будыніну. Што-ж павінна быць там у сярэдзіне? Ці дазволяць і яму ўзьлезьці, паглядзець?

Агульная ўвага, спачуваньне і цікавасьць сустрэлі дзяўчыну на караблі, але ня меншай увагай карыстаўся і фацэтны дзікун у капітанскім мундзіры.

— Гляньце, які капітан! Ха-ха-ха!

— Хоць і бяз майтак!

— Ах, які ён цікавы!—пляскалі рукамі пані і паненкі.

Манг усё не рашаўся, ці лезьці яму адразу, ці не. Ды і боязна неяк. Тут ён убачыў, што Белая Птушка схілілася зьверху, ласкава сьмяецца іківае яму галавой.



Манг ухапіўся за сходні.

— Мой добры Манг! —казала яна. — Дзякую табе! Бывай здароў і шчасьлів! Выбачай, што нічога ня маю, каб цябе ўзнагародзіць.

Пачуўшы гэтыя словы, публіка з параходу пачала кідаць яму розныя рэчы. Але, на дзіва, Манг ня кінуўся за імі: ён зразумеў, што Белая Птушка ласкава запрашае яго, асьмялеў і ўхапіўся за сходні.

— І ты хочаш ехаць? — сказала дзяўчына: — Ну, добра. Я буду вельмі рада, мой верны Манг.

І, зьвярнуўшыся да капітана, яна сказала:

— Дазвольце і яму сесьці. Мы заплоцім за праезд. Гэты чалавек выратаваў мяне ад сьмерці.

Зразумела, капітан згадзіўся,—і праз хвіліну на палубе сярод шырокага кола пасажыраў зьявіўся Манг у сваім убраньні...

Ня дужа артыстых магло-б пахваліцца такім посьпехам, які спаткаў Манга. Крыкі, рогат, воплескі пакаціліся па пустэльнай пратоцы і адбіліся рэхам між дзікіх скал і цясьнін.

А Манг стаяў пасярэдзіне, апусьціўшы рукі, неяк крыва ўсьміхаўся і ня ведаў, на што дзівіцца: ці на фацэтных людзей у нязвычайным адзеньні, ці на дзіўнае абсталяваньне, ці на страшную трубу з дымам, ці на ўздрыгі і грукат кану-зьвера, які ўжо пачаў рухацца наперад.

— Ахвярую капітану Мангу нестарчаючую частку адзеньня!—крыкнуў адзін вясёлы паніч і праз хвіліну прынёс яму... нагавіцы. Узьдзелі іх і зноў пакаціліся ад сьмеху. Сярод аднастайнай, нуднай дарогі гэта здарэньне прынясло людзям некалькі хвілін забавы. А потым забыліся і зноў пачалі нудзіцца.

Праз некалькі хвілін пратока апусьцела. Як і раней, варушылася вада, як і раней, моўчкі стаялі суровыя, чорныя скалы, як і раней ніякіх адзнак чалавека.

Толькі сярод вады сіратліва хістаўся кану. На сподзе яго курылася галавешка, побач валяліся скуры і тырчэла вясло з пікай.

У паветры праразьліва крыкнула чайка, пакружылася над чоўнам, некалькі разоў праляцела над ім так нізка, што нават дакранулася крылом, а потым спакойна ўселася на краі...



## X

### Праз чатыры гады.

(Пасьляслоўе).

На аднэй з лепшых вуліц Лёндону стаіць пышны рэсторан „Космополіт“.

Шмат людзей спыняецца ля вакон, каб падзівіцца на пышнае, багатае абсталяваньне, асабліва-ж на тых людзей, што абслугоўваюць рэсторан. Сярод сотні афіцыянтаў нельга ўбачыць і двух, якія-б належалі да аднэй нацыі: кожны з іх зьяўляецца прадстаўніком асобнай нацыі. Здаецца, увесь сьвет сабраўся, каб служыць ангельскаму капіталу. Ня толькі беднаму, але сярэдняму чалавеку нельга было думаць навясьціць гэты палац, дзе адна жабіна лапка каштавала два рублі.

Але, ня гледзячы на гэта, народу заўсёды было поўна.

Кожную хвіліну бясшумна пад‘яжджалі аўтомобілі і адтуль выходзілі вясёлыя, шчасьлівыя людзі. Вось пад‘ехала кампанія з двух маладых мужчын і жанчыны. Адзін з мужчын быў цывільны, у цыліндры, з моноклем, другі—у форме флёцкага ваеннага афіцэра. Жанчына была прыгожая, гадоў 22-х, з тонкім далікатным тварам і блакітнымі вачыма.

Яны ўвайшлі ў сярэдзіну і спыніліся ў вялікай залі, дзе на эстрадзе выступалі нейкія афрыканскія танцоркі, а музыка даносілася аднекуль зьверху. Навакол гула гаворка, час-ад-часу раздаваліся стрэлы коркаў з бутэлек.

Зараз-жа падскочыў нэгра і схіліўся, чакаючы загаду.

— Шампанскага і амараў *),—загадаў афіцэр.

— Не, пачакайце,—спыніла жанчына:—Паклічце лепш Манга. Хай ён падае.

— Слухаю!—сказаў нэгра і пабег назад.

— Я, сястрыца, баюся, што вы пачастуеце нас вашымі ўлюбёнымі стравамі: сьлімакамі, чарвякамі і іншымі ласункамі—мусіць, ты ўжо занудзілася па іх.

Грэт засьмяялася і паківала яму пальцам:

— Пачакай, мажа і табе калі-небудзь прыдзецца карміцца гэтым!

— Не,—адказаў брат,—калі ўжо ня будзе чаго есьці, дык я тады хоць хлеба з маслам зьем.

Тымчасам падыходзіў Манг. Хоць зусім інакшы выгляд ён меў, хоць на ім быў дасканалы сурдутны гарнітур, але ўсё-ж такі кідалася ў вочы, што гэта ўбраньне неяк не пасавала да яго. Нізкі рост, доўгія рукі, тонкія ногі, агульны выгляд і рухі,—уся гэта спадчына яго папярэдняга жыцьця давала сябе адчуваць.

Калі ён убачыў сваю „Белую Птушку“ такую прыгожую, чыстую, у пекным шэрым адзеньні і разам з тым такую чужую, далёкую,—ён ня мог паверыць, што калісьці яны былі так блізка адзін ля аднаго. Але вобразы самі паплылі перад яго вачыма: вось ён яе выратоўвае з мора, вось яны на скале, потым у бацькоў, потым пяць дзён у чоўне...

— Гэй, ты, малпа! Падай каньяку!—пачуў ён ля сябе п‘яны голас.

Манг азірнуўся і ўбачыў п‘янага пана, які ўтаропіўся на яго бычачымі вачыма.

— Выбачайце!—сказаў Манг:—Я заняты.

*) Морскія ракі.

— Што!—гыркнуў пан і стукнуў кулаком па стале.— Хіба я ня бачу, што ты ідзеш з пустымі рукамі?—і ён ізноў стукнуў кулаком так, што шклянкі зазьвінелі.

Падскочыў старшы служачы:

— Выбачайце, пан! Чым, пан, нездаволены?

— Што-ж гэта ў вас робіцца?—зароў той.—Паназьбіралі малпаў са ўсяго сьвету, а служыць не навучылі: ідзе з пустымі рукамі і адмаўляецца, калі яму загадваюць. Гэта-ж...



Манг падышоў да стала.

Ледзь уціхамірылі яго. Але да службовай дзейнасьці Манга далучылася новая пляма...

Манг падышоў да стала Грэт і пакланіўся. Абодвы мужчыны сталі пільна прыглядацца да яго.

— Дык вось які ён!—прамармытаў ваенны.

— Ну, як жывеш, Манг?—пачала Грэт:—як ідзе служба?

— Дзякую, міс. Служу, як магу.

— А я цяпер ужо ня міс, а містрыс *). А гэта мой муж, капітан ваеннага карабля.

— Відаць, такі ўжо лёс твой, сястрыца, што галоўныя моманты твайго жыцьця зьвязаны з капітанамі.

— Дзякую за параўнаньне!—незадаволена буркнуў муж.

*) Міс — паненка, містрыс — пані.

— Не абражайся, Джэк,—гаварыў далей брат:—ён-жа-ж быў не ваенны, а цывільны капітан.

Манг стаяў і саромліва ўсьміхаўся. Ён добра памятаў „урачыстае“ спатканьне на караблі.

— А што, Манг, ці не хацеў-бы ты вярнуцца дамоў? Ці не шкадуеш ты сваёй нявесты Мгу?—пыталася далей Грэт.

— Ня ведаю,—адказаў Манг, падумаўшы:—наведацца ў кожным разе хацелася-б.

— А мы з табой, мусіць, ня скора ўбачымся. Я сёньня ноччу выяжджаю з мужам у Індыю.

Хоць і бяз гэтага Манг бачыў яе за гэты час разы са тры, але ўсё-ж такі яму неяк сумна стала. Знаходзячыся адзін у гэтым чужым шматміліённым горадзе, ён усё-ж такі адчуваў, што тутака недзе ёсьць чалавек, які ведае яго, які зьвязан з ім агульнымі перажываньнямі, успамінамі, да якога нават можна было-б зьвярнуцца ў часе бяды. Гэта-ж яна зьмясьціла яго ў гэты рэсторан і нават за першы год заплаціла гаспадаром значную суму за ўтрыманьне і навучаньне. І ў далейшым гаспадары лічыліся з ёй і, здаецца, яшчэ раз атрымалі грошы. Без яе ён ня ўтрымаўся-б тутака ніводнага дню. А цяпер невядома, што будзе.

— Ну, дык прынясі нам вячэру,—сказаў ваенны і заказаў стравы.

Калі Манг адышоў, афіцэр зьвярнуўся да жонкі:

— Грэт, ты забываешся, што знаходзішся на людзёх. Ты размаўляеш з ім, нібы з роўным. Гэта-ж няпрыстойна. Што могуць падумаць людзі, гледзячы на такое панібрацтва?

— Гэта-ж апошні раз, на разьвітаньне,—апраўдвалася Грэт:—Усё-ж такі яму я вінна сваім жыцьцём, а ты—сваёй жонкай,—дадала яна, хітра ўсьміхаючыся.

— Затое-ж ты зрабіла для яго ў сто разоў больш. Ня кожны так адплаціў-бы. Але з гэтага не вынікае, што ты павінна сябраваць з гэтай малпай.

— Ну, якое тутака сяброўства!—махнула рукой Грэт.

— Капітан капітану зайздросьціць,–уставіў сваё слова брат.

— А ты гатоў на ўсялякія недарэчнасьці, абы толькі пажартаваць,—незадаволена адказаў афіцэр.

Калі пасьля вячэры ваенны расплачваўся, ён даў Мангу „на гарбату" тры фунты стэрлінгаў (30 руб.), за што жонка зірнула на яго ўдзячным поглядам.

Манг доўга стаяў на месцы і сачыў, як выходзіла „Белая Птушка". А тая ўжо шчабятала аб ад'езьдзе, аб падарожжы, аб знаёмых і зусім забылася, што на сьвеце існуе нейкі Манг...

---

Праз тры дні Манга звольнілі з пасады...

Апошняй прычэпкай было яго „непаразуменьне" з п'яным панам. Яшчэ важней было тое, што яго протэктарка (абаронь-ніца) выехала. А галоўнай прычынай было, што Манг ня меў той вяртлявасьці, спрытнасьці, хітрасьці, якая патрабуецца ад лёкаяў у такіх панскіх установах.

І Манг апынуўся на вуліцы, сярод тысячаў беспрацоўнага люду—белых, чорных, жоўтых, бурых.

І, бадзяючыся па імглістых вуліцах Лёндону, ён часта ўяўляў сабе іншы горад сярод скал, вуліцы-каналы, морскіх птушак, кану, сям'ю і Мгу...



## ЗЬМЕСТ

